# ЭВАНГЕЛЕ
## ПАВОДЛЯ
# СЬВ. ЯНА



# Паводля Сьв. Яна Эвангеле

# Госпада нашага Ісуса Хрыста

на беларускую мову з грэцкага тэксту

пераклаў

Ян Пятроўскі

Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд

Менск-Лёндан-Нью Ёрк

1991

# ПАВОДЛЯ СЬВ. ЯНА ЭВАНГЕЛЕ

## РАЗЬДЗЕЛ 1.

На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова.

2. Яно было ў Бога спрадвеку.

3. Усё празь Яго сталася, і безь Яго нічога ня сталася з таго, што сталася.

4. У Ім было жыцьцё, жыцьцё было сьвятлом для чалавекаў.

5. І сьвятло ў цемры сьвеціць, і цемра не агарнула яго.

6. Быў чалавек, пасланы ад Бога; імя ягонае Ян.

7. Ён прыйшоў дзеля сьведчаньня, каб сьведчыў пра сьвятло, каб усе людзі мелі веру празь Яго.

8. Ён ня быў Сьвятлом, але быў пасланы, каб сьведчыў пра Сьвятло.

9. І гэта было праўдзівае Сьвятло, якое сьвеціць кажнаму чалавеку, прыходзячаму на сьвет.

10. Яно было на сьвеце, і сьвет быў учынены празь Яго, і сьвет не пазнаў Яго.

11. Ён прыйшоў да сваіх уласных, і свае ўласныя ня прынялі Яго.

12. Але ўсім тым, што прынялі Яго, даў ім сілу стацца сынамі Божымі, тым, каторыя вераюць у імя Ягонае.

13. Тым, што не ад крыві, не ад жаданьня цела, не ад жаданьня мужа, але ад Бога нарадзіліся.

14. І Слова сталася целам і асялілася між нас, /і бачылі мы славу Ягоную, славу, як адзінароднага ад Айца/, поўнае ласкі і праўды.

15. Ян сьведчыць пра Яго і ўзвышаным голасам кажа: гэта быў Той, пра Каторага я сказаў, што Той, Каторы ідзе за мною, выперадзіў мяне, бо Ён быў раней за мяне.

16. Бо з паўніні Ягонае ўсе мы прынялі ласку на ласку.

17. Бо права было дадзена праз Майсея, але ласка і праўда сталіся праз Ісуса Хрыста.

18. Бога ніхто ніколі ня бачыў; адзінародны Сын, Каторы ў улоньні Айца, Ён абъявіў.

19. І вось сьведчаньне Янава, калі Юдэі паслалі зь Ерузаліму гіярэяў і левітаў, каб спыталіся яго: хто ты?

20. І ён вызнаў, і не запярэчыў; але вызнаў: я ня Хрыстос.

21. І пыталіся ў яго: дык што-ж? ты Ільля? І ён адказаў: не. Прарок? І адказаў: не.

22. Дык сказалі яму: хто-ж ты? каб нам даць адказ тым, што паслалі нас: што ты скажаш пра самога сябе?

23. І сказаў: я голас гукаючага ў пустыні: Прастуйце шлях Госпаду, як сказаў прарок Ісаія.

24. А тыя, што былі пасланыя, былі з фарысэяў.

25. І яны спыталіся ў яго, і сказалі яму: чаму ты хрысьціш, калі ты ня Хрыстос, ані Ілія, ані прарок?

26. Ян адказаў ім, кажучы: Я хрышчу вадою; але стаіць сярод вас, Каторага вы ня ведаеце;

27. Ён гэта ёсьць, што ідзе за мною, але наперадзе мяне быў, Катораму я не зьяўляюся вартым разьвязаць рамень Ягонага абуцьця.

28. Здарылася гэта ў Бэтаніі за Ёрданам, дзе Ян хрысьціў.

29. Назаўтра бачыць Ян Ісуса ідучага да яго і кажа: вось Ягня Божае, што здымае грэх сьвету.

30. Гэты ёсьць, пра Каторага я сказаў: за мною ідзе Муж, Каторы выперадзіў мяне, бо Ён быў раней за мяне.

31. І я ня ведаў Яго; але, каб Ён быў выяўлены Ізраэлю, затым я прыйшоў хрысьціць вадою.

32. І сьведчыў Ян, кажучы: я бачыў Духа, зыходзячага зь неба, як голуб, і затрымаўся над Ім.

33. І я ня ведаў Яго; але Той, што паслаў мяне хрысьціць вадою, сказаў мне: над кім ты пабачыш зыходзячага Духа і прабываючага над Ім - Гэты і ёсьць Той, што хрысьціць Духам Сьвятым.

34. І я бачыў і сьведчыў, што Гэты ёсьць Сын Божы.

35. Назаўтра ізноў стаяў Ян і двух зь ягоных вучняў.

36. І, угледзіўшы, што ідзе Ісус, сказаў: вось Ягня Божае!

37. І пачулі двое зь ягоных вучняў, як казаў гэта, і пайшлі за Ісусам.

38. Ісус-жа аглянуўшыся і ўбачыўшы, што ідуць за Ім, кажа ім: што шукаеце? Яны сказалі Яму: Раббі! /што значыць - Вучыцель!/, дзе жывеш?

39. І Ён сказаў ім: хадзеце і паглядзеце. Яны прыйшлі і пабачылі, дзе Ён жыве, і асталіся ў Яго гэты дзень. Было-ж каля дзесятае гадзіны.

40. Адін з двух, што чулі ад Яна і пайшлі за Ісусам, быў Андрэй, брат Сымона Пётры.

41. Ён першы знаходзіць брата свайго Сымона і кажа яму: мы знайшлі Мэссію, што ў перакладзе значыць - Хрыста.

42. І прывёў яго да Ісуса. Ісус, паўзіраўшыся на яго, сказаў: ты Сымон, сын Енін; ты названы будзеш Кефас, што ў перакладзе значыць, камень.

43. На другі дзень Ісус хацеў ісьці ў Ґалілею і знаходзіць Піліппа, і кажа яму: Ідзі за Мною.

44. Піліпп-жа быў з Бэтсаіды, зь места Андрэявага і Пётравага.

45. Піліпп знаходзіць Натанаіла і кажа яму: мы знайшлі Таго, пра Каго Майсей пісаў у праве, і прарокі, Ісуса з Назарэту сына Язэпавага.

46. І Натанаіл сказаў яму: ці-ж можа быць з Назарэту штонебудзь добрае? Піліпп кажа яму: ідзі і паглядзі.

47. Ісус, пабачыўшы ідучага да Яго Натанаіла, кажа пра яго: вось, запраўды, Ізраэліта, у каторым нямашака ашуканства.

48. Натанаіл кажа Яму: скуль Ты ведаеш мяне? Ісус, адказваючы яму, сказаў: перад тым, як Піліпп паклікаў цябе, Я бачыў цябе, як ты быў пад фіґавым дрэвам.

49. Натанаіл адказваючы Яму, сказаў: Раббі! Ты - Сын Божы, Ты - Кароль Ізраэля.

50. Ісус, адказваючы, сказаў яму: затым, што Я сказаў табе: Я бачыў цябе пад фіґавым дрэвам, - ты верыш? ты пабачыш яшч большыя рэчы, чымся гэтыя.

51. І Ён кажа яму: Запраўды, запраўды кажу вам: адгэтуль будзеце бачыць неба адчыненае і анялаў Божых узыходзячых і зыходзячых на Сына Чалавечага.

## РАЗЬДЗЕЛ 2.

На трэйці дзень было вясельле ў Кане Ґалілейскай; і маці Ісусава была тамака.

2. Гэтаксама Ісус і вучні Ягоныя былі пазваныя на вясельле.

3. І, калі не хапіла віна, маці Ісусава кажа Яму: віна ня маюць.

4. Ісус кажа ёй: што Мне і табе, жанчына? Гадзіна Мая яшчэ не надыйшла.

5. Маці Ягоная сказала слугам: штоколечы скажа вам, зрабеце гэта.

6. Было-ж тамака шэсьць каменных судзін да вады, якія стаялі ў сузгоднасьці зь юдэйскім звычаем ачышчэньня, зьмяшчаючых па дзьве ці па тры меры.

7. Кажа ім Ісус: напоўніце судзіны вадою. І напоўнілі іх да верху.

8. І кажа ім: чэрпайце цяперака і нясеце да даглядчыка. І панесьлі.

9. І калі-ж даглядчык пакаштаваў вады, што віном сталася, - а ён ня ведаў, скуль яно, слугі-ж, што налівалі ваду, ведалі, - кліча маладога.

10. И кажа яму: кажны чалавек перш падае добрае віно, а як нап'юцца, тады горшае; ты-ж добрае віно захаваў дагэтуль.

11. Гэтак зрабіў Ісус пачатак цудам у Кане Ґалілейскай і выявіў славу Сваю, і ўверавалі ў Яго вучні Ягоныя.

12. Пасьля гэтага прыйшоў Ён у Капэрнаум, Ён і маці Ягоная, і браты Ягоныя, і вучні Ягоныя, і прабылі там некалькі дзён.

13. І была блізка Пасха юдэйская, і ўвайшоў Ісус у Ерузалім;

14. І знайшоў у сьвятыні тых, што прадавалі валоў, авец, галубоў, і сядзелі тамака мянялы.

15. І зрабіўшы зь вяровак бізун, выгнаў са сьвятыні ўсіх, гэтаксама і авец і валоў, ды рассыпаў грошы мянялаў і сталы іхныя абярнуў;

16. І сказаў тым, што прадавалі галубоў: забярэце ўсе гэныя рэчы згэтуль: не рабеце дому Айца Майго домам гандлю.

17. І прыпомнілі вучні Ягоныя, што пра гэта было напісана: рупатлівасьць пра дом Твой пажырае Мяне.

18. Тады Юдэі, адказваючы, сказалі Яму: які знак нам дасі, чаму гэтае робіш?

19. Ісус, адказваючы ім, сказаў: зруйнуйце сьвятыню гэтую, і Я ў тры дні адбудую яе.

20. Тады Юдэі сказалі: сьвятыня гэтая будавалася сорак і шэсьць гадоў, а Ты ў тры дні адбудуеш яе?

21. Але Ён гаварыў гэтае пра сьвятыню цела Свайго.

22. Затым, як уваскрос Ён із мертвых, вучні Ягоныя прыпомнілі, што Ён казаў гэтае, і паверылі пісаньню і слову, што Ісус сказаў.

23. Цяпер-жа, калі быў Ён у Ерузаліме на Пасху, у дню сьвяткаваньня, дык шматлікія, бачучы цуды, якія Ён чыніў, уверылі ў імя Ягонае.

24. Але сам Ісус не давяраўся ім, бо ведаў усіх.

25. І ня меў патрэбы, каб хто-небудзь сьведчыў пра чалавека, бо Сам ведаў, што было ў чалавеку.

## РАЗЬДЗЕЛ 3.

Быў-жа між фарысэямі чалавек, ягоная імя Нікадэм, адзін з старшыняў юдэйскіх.

2. Гэты прыйшоў да Ісуса ўначы і сказаў Яму: Раббі, мы ведаем, што Ты вучыцель, прыйшоў ад Бога, бо ніхто ня можа чыніць гэтакіх цудаў, якія Ты чыніш, калі-б ня быў зь ім Бог.

3. І адказваючы, Ісус сказаў яму: запраўды, запраўды кажу табе: калі хто не народзіцца нанава, ня можа бачыць Гаспадарства Божага.

4. Нікадэм кажа Яму: як можа чалавек нарадзіцца, калі ён стары? Няўжо-ж ён другі раз можа ўвайсьці ў чэрава маці свае і нарадзіцца?

5. Ісус адказаў: запраўды, запраўды кажу табе: калі хто не народзіцца з вады і Духа, ня можа ўвайсьці ў Гаспадарства Божае.

6. Тое, што́ народжана зь цела, ёсьць цела, а спароджанае з Духа, ёсьць Дух.

7. Ня дзівуйся, што Я сказаў табе: трэба вам нарадзіцца нанава.

8. Дух дыша, дзе хоча, і голас яго чуеш, але ня ведаеш скуль прыходзіць і куды адыходзіць: гэтак здараецца з кажным нарожданым з Духа.

9. Адказваючы, Нікадэм сказаў Яму: як гэта можа быць?

10. Ісус адказаў яму і сказаў: ты вучыцель Ізраэляў і гэтага ня ведаеш?

11. Запраўды, запраўды кажу табе: мы кажам пра тое, што́ ведаем, і сьведчым пра тое, што́ бачылі, і вы сьведчаньня нашага ня прыймаеце.

12. Калі Я сказаў вам пра зямное, і вы ня верыце, дык як паверыце, калі буду гаварыць пра нябеснае?

13. І ніхто ня ўзыйшоў на неба, толькі Сын Чалавечы, што на небе, Каторы зь неба зыйшоў.

14. І як Майсей узьняў вужаку у пустыні, гэтак мусіць быць узьняты Сын Чалавечы,

15. Каб кажны, хто веруе ў Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае.

16. Гэтак бо палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб кажны, хто веруе ў яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае.

17. Бо не паслаў Бог Сына Свайго ў сьвет, каб судзіць сьвет, але каб сьвет быў збаўленым празь Яго.

18. Той, хто веруе ў Яго, ня будзе асуджаны, а хто ня веруе, той ужо засуджаны, бо ня ўвераваў у імя Адзінароднага Сына Божага.

19. І суд выражаецца тым, што сьвятло прыйшло ў сьвет, але людзі болей упадабалі сабе цемру, чымся сьвятло, бо ўчынкі іхныя былі благія.

20. Кажны бо, хто робіць благое, ненавідзіць сьвятло і ня імкнецца да сьвятла, каб ня выявіліся ўчынкі ягоныя, бо яны благія.

21. Але той, хто чыніць праўду, імкнецца да сьвятла, каб відавочнымі сталіся ўчынкі ягоныя, бо яны ў Богу завяршыліся.

22. Пасьля гэтага прыйшоў Ісус і вучні Ягоныя ў зямлю юдэйскую; і там жыў зь імі і хрысьціў.

23. Ян гэтаксама хрысьціў у Эноне, недалёка ад Саліму, бо там было шмат вады; і яны прыходзілі туды і хрысьціліся.

24. Бо Яна яшчэ ня ўкінулі былі ў вязьніцу.

25. І ўзьнікла спрэчка паміж Янавымі вучнямі і Юдэямі адносна ачышчэньня.

26. І прыйшлі да Яна і сказалі яму: Раббі, Той, што быў з табою за Ёрданам, пра Каторага сьведчыў ты, вось Ён хрысьціць, і ўсе ідуць да Яго.

27. Адказваючы, Ян сказаў: чалавек ня можа нічога атрымаць, калі ня будзе дадзена яму зь неба.

28. Вы самыя сьведкамі ў тым зьяўляецеся, што я сказаў: я ня Хрыстос, але я пасланы перад Ім.

29. Той, хто мае князёўну маладую, той князь малады, а князяў прыяцель, што стаіць і слухае яго, цешыцца радасьцяй з голасу князявага. Дык вось гэтая радасьць мая збылася.

30. Ён павінен расьці, а я малець.

31. Хто прыходзіць з вышыні, знаходзіцца вышэй за ўсіх, а хто зь зямлі, той зямны і зь зямлі гаворыць. Хто зь неба прыходзіць, той вышэй за ўсіх.

32. І што Ён бачыў і чуў, аб тым і сьведчыць, і ніхто ня прыймае сьведчаньня Ягонага.

33. Хто-ж прыняў Ягонае сьведчаньне, той прыпячатаваў, што Бог ёсьць праўдзівы.

34. Бо той, каго паслаў Бог, гаворыць словы Божыя; бо-ж не дае Бог Духа пад меру.

35. Ацец любіць Сына і ўсё даў у руку Ягоную.

36. Хто веруе ў Сына, мае вечнае жыцьцё, а хто ў Сына ня веруе, ня ўбачыць жыцьця, але гнеў Божы прабываціме на ім.

## РАЗЬДЗЕЛ 4.

Калі-ж даведаўся Госпад, што дачуліся фарысэі, што Ісус болей вучняў здабывае і хрысьціць, чымся Ян, -

2. Хоць Сам Ісус ня хрысьціў, але вучні Ягоныя, -

3. Пакінуў Ён Юдэю і пайшоў зноў у Ґалілею.

4. І выпадала-ж Яму праходзіць праз Самарыю.

5. І вось, прыходзіць Ён у самарыйскае места, званае Сіхар, каля парцэлі, што даў Якаў сыну свайму Язэпу.

6. Была тамака студня Якава. І Ісус, стомлены падарожжам сеў ля студні. Было каля шостае гадзіны.

7. Прыходзіць жанчына з Самарыі зачарпнуць вады. Ісус кажа да яе: дай Мне піць.

8. /Бо вучні Ягоныя пайшлі ў места купіць ежы/.

9. Тады жанчына з Самарыі кажа Яму: як гэта, Ты, Юдэй, і просіш піць у мяне, Самаранкі? /бо Юдэі ня маюць зносін з Самаранамі/.

10. Ісус адказаў ёй і сказаў: калі-б ты ведала дар Божы, і Хто кажа табе: дай Мне піць, дык ты сама прасіла-б у Яго, і Ён даў-бы табе жывое вады.

11. Жанчына кажа Яму: Госпадзе, у Цябе і зачарпнуць няма чым, а студня глыбокая: скуль-жа ў Цябе вада жывая?

12. Няўжо-ж Ты большы за айца нашага Якава, каторы даў нам гэтую студню, і сам зь яе піў, і дзеці ягоныя, і статок ягоны?

13. Адказваючы ёй, Ісус сказаў: кажны, хто пье гэтую ваду, зноў смагнуць будзе:

14. Але хто выпье вады, якое Я яму дам, не засмагне ніколі, і вада, што Я дам яму, станецца ў ім крыніцаю вады, што ў жыцьцё вечнае цячэ.

15. Жанчына кажа Яму: Госпадзе, дай мне гэтае вады, каб мне ня смагнуць і ня прыходзіць сюды чэрпаць.

16. Ісус кажа ёй: ідзі, пакліч мужа свайго і прыйдзі сюды.

17. Адказваючы, жанчына сказала: я не маю мужа. Ісус кажа да яе: праўду ты сказала, што ў цябе няма мужа:

18. Бо ты мела пяць мужоў; і той, каторага ты цяперака маеш, не зьяўляецца мужам табе; гэта ты праўдзіва сказала.

19. Жанчына кажа Яму: Госпадзе, бачу, што Ты прарок.

20. Бацькі нашыя пакланяліся на гэтай гары, а вы кажаце, што месца, дзе павінны пакланяцца - у Ерузаліме.

21. Ісус кажа ёй: павер Мне, жанчына, што надыйдзе час, калі не на гэтай гары, і не ў Ерузаліме будзеце пакланяцца Айцу;

22. Вы ня ведаеце, чаму пакланяецеся: мы ведаем чаму пакланяемся: бо збаўленьне ад Юдэяў.

23. Але надыйдзе час, дый ён ужо надыйшоў, калі праўдзівыя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо гэтакіх паклоньнікаў шукае Сабе Ацец.

24. Бог ёсьць Дух, і тыя, што пакланяюцца Яму, павінны пакланяцца ў духу і праўдзе.

25. Жанчына кажа Яму: ведаю, што прыйдзе Мэссія, гэта значыць Хрыстос, і калі Ён прыйдзе, апавесьціць нам усё.

26. Ісус кажа ёй: гэта Я, Каторы гавару з табою.

27. У гэтым часе вярнуліся вучні Ягоныя і дзівіліся, што Ён гаворыць з жанчынаю; але ніводзен зь іх не сказаў ёй: што ты хочаш? або - чаму Ты гаворыш зь ёю?

28. Тады жанчына пакінула вядро сваё, і пайшла да места, ды кажа людзям:

29. Хадзеце ды паглядзеце чалавека, каторы сказаў мне ўсё, што я рабіла: ці ня Хрыстос гэта?

30. Тады выйшлі яны зь места і прыйшлі да Яго.

31. У міжчасе вучні прасілі Яго, кажучы Раббі, еш.

32. Але Ён сказаў ім: Я маю ежу есьці, якое вы ня ведаеце.

33. Затым вучні гаварылі між сабою: няўжо-ж нехта прынёс Яму есьці?

34. Ісус кажа ім: Мая ежа - гэта чыніць волю Таго, Хто паслаў Мяне і завяршыць справу Ягоную.

35. Ці ня кажаце вы, што яшчэ чатыры месяцы, і настане жніво? а Я кажу вам: уздымеце вочы вашыя і паўзірайцеся на нівы, як яны пабялелі і пасьпелі да жніва.

36. Той, хто жне, атрымлівае плату і зьбірае плады да жыцьця вечнага, каб сяўбіт і жнец разам радаваліся.

37. Бо ў гэтым праўдзівае выслоўе ёсьць: "Адзін сее, а другі жне".

38. Я паслаў вас жаць тое, над чым вы не працавалі: іншыя працавалі, а вы ўвайшлі ў іхную працу.

39. І шматлікія з Самаранаў гэтага места ўверавалі ў яго з прычыны словаў жанчыны, што сьведчыла, што Ён сказаў мне ўсё, што я зрабіла.

40. Затым, як прыйшлі да Яго Самаране, прасілі Яго астацца зь імі, і Ён прабыў тамака два дні.

41. І яшчэ шмат болей ўверавала дзеля слова Ягонага;

42. І сказалі той жанчыне: ужо не дзеля паведаньня твайго верым, але мы самыя чулі Яго і ведаем, што гэта запраўды Збаўца сьвету.

43. Пасьля двух дзён выйшаў Ён стуль і пайшоў у Ґалілею;

44. Бо сам Ісус сьведчыў, што прарок ня мае пашаны ў сваей бацькаўшчыне.

45. Калі прыйшоў Ён у Ґалілею, дык Ґалілеяне прынялі Яго, бо бачылі ўсё, што Ён зрабіў у Ерузаліме ў часе сьвята, бо і яны хадзілі на сьвята.

46. Дык Ісус ізноў прыйшоў у Кану Ґалілейскую, дзе абярнуў ваду ў віно. І быў у Капэрнауме нейкі прыдворны, у каторага сын быў хворы.

47. Ён пачуў, што Ісус прыйшоў зь Юдэі ў Ґалілею, прыйшоў да Яго і прасіў Яго прыйсьці і аздаравиць сына ягонага, каторы быў ужо пры сьмерці.

48. І сказаў яму Ісус: вы не паверыце, калі ня ўбачыце знакаў і цудаў.

49. Прыдворны-ж кажа Яму: Господзе! прыйдзі, пакуль маё дзіця не памерла.

50. Ісус кажа яму: ідзі, сын твой жыве. І ён паверыў слову, якое сказаў яму Ісус, і пайшоў.

51. На дарозе ўжо слугі ягоныя спаткалі яго, і сказалі яму: сын твой здаровы.

52. І ён спытаўся ў іх: а каторай гадзіне палепшала яму? Яму адказалі: учора а сёмай гадзіне гарачка пакінула яго.

53. Згэтуль даведаўся бацька, што ў тую-ж гадзіну, калі Ісус сказаў яму: сын твой жыве. І ўвераваў сам ён і ўвесь дом ягоны.

54. Гэта другі цуд учыніў Ісус, вярнуўшыся зь Юдэі ў Ґалілею.

## РАЗЬДЗЕЛ 5.

Пасьля гэтага было сьвята юдэйскае; і Ісус прыйшоў у Ерузалім.

2. Ёсьць-жа ў Ерузаліме каля Авечае брамы купальня, якая па-гэбрэйску завецца Бэтэзда зь пяцьма паветкамі на калёнах.

3. У іх ляжала множства хворых, сьляпых, кульгавых, ссохшых, што чакалі на рух вады;

4. Бо час ад часу ангел Господні зыходзіў у купальню і хваляваў ваду; і хто першы ўваходзіў у яе пасьля ўсхваляваньня вады, той здаравеў, на якую-б хваробу ён ні хварэў.

5. І быў тут нейкі чалавек, што хварэў трыццаць восем гадоў.

6. Ісус, убачыўшы яго ляжачага і, даведаўшыся, што ляжыць ён ужо даўжэйшы час, кажа яму: ці хочаш паздаравець?

7. І хворы адказаў: так, Господзе, але я ня маю чалавека, каторы апусьціў-бы мяне ў купальню, калі ўсхвалюецца вада; калі-ж я сам прыходжу, іншы выпераджае мяне.

8. Ісус кажа яму: устань, вазьмі пасьцелю сваю і хадзі.

9. І ён зараз-жа паздаравеў, і ўзяў пасьцелю сваю, і пайшоў. Было-ж гэта ў сыботу.

10. Затым Юдэі казалі аздароўленаму: сягоньня сыбота, і права не дазваляе табе несьці сваю пасьцелю.

11. Ён адказаў ім: той, Хто аздаравіў мяне, сказаў мне: вазьмі пасьцелю сваю і хадзі.

12. Тады яны запыталі яго: хто гэты чалавек, што сказаў табе: вазьмі пасьцелю сваю і хадзі?

13. Але аздароўлены ня ведаў, хто гэта быў, а Ісус адыйшоў ад народу, які быў на тым месцы.

14. Пасьля гэтага Ісус спаткаў яго ў сьвятыні і сказаў яму: вось цяперака ты здаровы, глядзі-ж, не грашы болей, каб ня сталася з табою што-небудзь горшае.

15. Чалавек гэты пайшоў і сказаў Юдэям, што гэта быў Ісус, Каторы аздаравіў яго.

16. І пачалі Юдэі прасьледаваць Ісуса і шукалі нагоды, якбы забіць Яго за тое, што Ён тварыў гэтакія рэчы ў сыботу.

17. Але Ісус адказаў ім: Ацец Мой дагэтуль чыніць, і Я чыню.

18. За гэта яшчэ болей Юдэі шукалі забіць Яго, што Ён ня толькі ломіць сыботу, але і казаў гэтаксама, што Бог быў Ягоным Айцом, чынячы гэтым Самога Сябе роўным Богу.

19. Тады, адказваючы, Ісус сказаў ім: запраўды, запраўды кажу вам: Сын нічога ня можа чыніць Сам ад Сябе, калі не пабачыць творачага Айца: бо штоколечы Ён чыніць, тое гэтаксама і Сын чыніць.

20. Бо Ацец любіць Сына і паказвае Яму ўсё, што Сам чыніць: дый пакажа Яму яшчэ большыя дзеяньні, чымся гэтыя, ажно дзівіцца будзеце.

21. Бо як Ацец уваскрашае памершых і ажыўляе, - гэтак і Сын ажыўляе, каго хоча.

22. Бо Ацец ня судзіць нікогда, але ўвесь суд аддаў Сыну,

23. Каб усе паважалі Сына, як паважаюць Айца. Хто не паважае Сына, не паважае і Айца, Каторы паслаў Яго.

24. Запраўды, запраўды кажу вам: хто слухае слова Маё і верыць Таму, Хто паслаў Мяне, мае вечнае жыцьцё, і ня прыйдзе на суд, але перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё.

25. Запраўды, запраўды кажу вам: прыйдзе час, дый ужо прыйшоў, калі памершыя пачуюць голас Сына Божага і, пачуўшы, ажывуць.

26. Бо, як Ацец мае жыцьцё Сам у Сабе, гэтак і Сыну даў мець жыцьцё ў Самым Сабе;

27. І даў Яму ўладу чыніць суд, бо Ён ёсьць Сын Чалавечы.

28. Ня дзівуйцеся з гэтага: бо надыйдзе гадзіна, калі ўсе, што ў магілах, пачуюць голас Ягоны,

29. І выйдуць тыя, што чынілі дабро на ўваскрасеньне жыцьця, а што благое чынілі - на ўваскрасеньне суду.

30. Я нічога не магу чыніць Сам ад Сябе; як чую, гэтак і суджу: і суд Мой справядлівым ёсьць, бо Я ня шукаю Свае ўласнае волі, але волі Таго, Хто паслаў Мяне, Айца.

31. Калі Я сьведчу Сам пра Сябе, дык сьведчаньне Маё ня ёсьць праўдзівае.

32. Ёсьць нехта іншы, хто сьведчыць адносна Мяне, і Я ведаю, што праўдзівае тое сьведчаньне, каторым ён сьведчыць адносна Мяне.

33. Вы паслалі да Яна і ён засьведчыў аб праўдзе.

34. Не ад чалавека прыймаю Я сьведчаньне, але кажу гэта, каб вы збаўленымі былі.

35. Ён быў гаручым і зіяючым сьвятлом, і вы хацелі пацешыцца якісьці час у сьвятліні ягонай.

36. Я-ж маю сьведчаньне большае за Янавае: бо дзеяньні, якія Ацец даў Мне завяршыць, яны, гэтыя самыя дзеяньні, што Я чыню, яны сьведчаць пра Мяне, што Ацец паслаў Мяне.

37. І Ацец, Каторы паслаў Мяне, Сам засьведчыў аба Мне. А вы ані голасу Ягонага ніколі ня чулі, ані аблічча Ягонага ня бачылі.

38. Затым вы ня маеце ў сабе слова Ягонага, бо ня верыце Таму, Каторага Ён паслаў.

39. Дасьледуйце Пісаньні; бо вы думаеце, што празь іх маеце жыцьцё вечнае, а яны сьведчаць аба Мне.

40. Але вы ня хочаце прыйсьці да Мяне, каб мець жыцьцё.

41. Славы ад людзей Я ня прыймаю.

42. Але ведаю вас; вы ня маеце ў сабе любові для Бога.

43. Я прыйшоў у імя Айца Майго, і вы ня прыймаеце Мяне; а калі-б іншы прыйшоў у імя сваё, таго прыймеце.

44. Як можаце вы верыць, калі адзін ад аднаго прыймаеце славу, і ня шукаеце славы ад адзінага Бога?

45. Ня думайце, што Я буду вінаваціць вас перад Айцом: ёсьць хто абвінавачвае вас - Майсей, на каторага спадзеяцеся.

46. Бо, калі-б вы верылі Майсею, дык верылі-б і Мне, бо ён пісаў пра Мяне.

47. Але калі ня верыце яго пісаньням, як паверыце Маім словам?

## РАЗЬДЗЕЛ 6.

Пасьля гэтага пайшоў Ісус на той бок мора Ґалілейскага або Тыбэрыядзкага.

2. І пайшло за Ім многа народу, бо бачылі цуды, якія Ён чыніў над хворымі.

3. І ўзышоў Ісус на гару і сядзеў тамака з вучнямі Сваімі.

4. Набліжалася-ж Пасха, сьвята юдэйскае.

5. Ісус, падняўшы вочы і ўгледзіўшы, што многа народу ідзе да Яго, кажа Піліппу: дзе нам купіць хлеба, каб накарміць іх?

6. Казаў-жа гэта, выпрабоўваючы яго, бо Сам ведаў, што́ хацеў зрабіць.

7. Піліпп адказаў Яму: ім на дзьвесьце дынараў мала будзе хлеба, каб кажнаму зь іх дасталося хоць па крысе.

8. Адзін з вучняў Ягоных, Андрэй, брат Сымона Пётры, кажа Яму:

9. Ёсьць тутака хлапец, які мае пяць ячных хле́баў і дзьве рыбы, але што гэта для гэткага множства?

10. Ісус сказаў, загадайце ім узьлегчы. Было-ж на тым месцы шмат травы. Дык людзі ўзьлеглі лікам каля пяцёх тысячаў.

11. І ўзяў Ісус хле́бы і, учыніўшы падзяку, раздаў вучням, а вучні ўзьлегшым, гэтаксама і рыбы, колькі хто хацеў.

12. І, як насыціліся, сказаў вучням Сваім: зьбярэце тыя кавалкі, што асталіся, каб нічога не змарнавалася.

13. І сабралі і напоўнілі дванаццаць карабоў кускамі зь пяцёх ячных хлебаў, што засталіся ў тых, што елі.

14. Людзі-ж, што бачылі цуд, учынены Ісусам, сказалі: гэта запраўды той прарок, што меўся прыйсьці ў сьвет.

15. Ісус-жа, ведаючы, што хочуць неўспадзеўкі прыйсьці і ўзяць Яго, каб зрабіць каралём, ізноў адыйшоў на гару адзін.

16. Калі настаў вечар, вучні Ягоныя зыйшлі над мора.

17. І, увайшоўшы ў лодку, паплылі на другі бок мора ў Капэрнаум. І пачало ўжо цямнець, а Ісус ня прыходзіў да іх.

18. Дуў сільны вецер і мора хвалявалася.

19. Праплыўшы каля дваццаціпяці ці трыццаці стадыяў, яны ўбачылі Ісуса, ідучага па моры і ўжо недалёка ад лодкі, і спалохаліся.

20. Але Ён сказаў ім: гэта Я, ня бойцеся.

21. І ўзялі Яго ахвотна ў лодку, і хутка лодка прыберазілася, куды яны плылі.

22. Назаўтра, народ, які стаяў на тым баку мора і бачыў, што там ня было іншае лодкі, апрача тае, у якую ўвайшлі вучні Ягоныя і, што Ісус не ўваходзіў у лодку з вучнямі Сваімі, але адплылі адны вучні Ягоныя.

23. Іншыя-ж лодкі надыйшлі з Тыбэрыяды блізка да таго месца, дзе елі хлеб, дзякуючы добраслаўленьню Госпада;

24. Вось-жа, калі народ спасьцярог, што тут няма Ісуса, ані вучняў Ягоных, дык увайшлі ў лодкі і прыплылі ў Капэрнаум, шукаючы Ісуса.

25. І, знайшоўшы Яго на другім баку мора, сказалі Яму: Раббі, калі Ты прыбыў сюды?

26. І адказаў ім Ісус і сказаў: запраўды, запраўды кажу вам: шукаеце Мяне не затым, што бачылі цуды, але затым, што елі хлеб і насыціліся;

27. Не працуйце дзеля ежы, што зьніштажаецца, але працуйце дзеля ежы, што трывае ў вечнае жыцьцё, якое дасьць вам Сын Чалавечы, бо Бог, Ацец адціснуў на Ім Сваю пячаць.

28. Яны-ж сказалі Яму: што маем рабіць, каб тварыць справы Божыя?

29. І адказаў ім Ісус і сказаў: вось справы Божыя: каб вы ўверавалі ў Таго, Каго Ён паслаў.

30. Яны-ж сказалі Яму: які знак пакажаш нам, каб мы бачылі і паверылі Табе? што Ты чыніш?

31. Бацькі нашы елі манну ў пустыні, як напісана: даў ім хлеб зь неба есьці.

32. Тады Ісус сказаў ім: запраўды, запраўды кажу вам: не Майсей даў вам хлеб зь неба, але Ацец Мой дае вам праўдзівы хлеб зь неба;

33. Бо хлеб Божы ёсьць Той, Каторы зыходзіць зь неба і дае жыцьцё сьвету.

34. Тады сказалі яны Яму: Госпадзе, давай нам заўсёды гэтакі хлеб.

35. Ісус сказаў ім: Я ёсьць хлеб жыцьця: хто прыходзіць да Мяне, не дазнаціме голаду, і хто веруе ў Мяне, не будзе прагнуць ніколі.

36. Але Я сказаў вам, што вы і бачылі Мяне, і ня верыце.

37. Усё, што дае Мне Ацец, да Мяне прыйдзе, і прыходзячага да Мяне, ня выжану вон.

38. Бо Я зыйшоў зь неба, не каб чыніць Сваю волю, але волю Таго, Хто паслаў Мяне.

39. І гэта ёсьць воля Айца, Каторы паслаў Мяне, каб з таго, што Ён даў Мне, нічога не загубіць, але ўваскрасіць усё гэтае ў вапошні дзень.

40. Бо воля паслаўшага Мяне Айца ёсьць тая, каб кажны, хто бачыць Сына і веруе ў Яго, меў вечнае жыцьцё, і Я ўваскрашу яго ў вапошні дзень.

41. Юдэі наракалі на Яго за тое, што Ён казаў: Я хлеб, што зыйшоў зь неба.

42. І казалі яны: ці ня Ісус гэта, сын Язэпаў, бацьку і маці каторага мы ведаем? Як-жаж Ён кажа: Я зыйшоў зь неба?

43. Ісус-жа адказаў ім і сказаў: ня гудзеце між сабою;

44. Ніхто ня можа прыйсьці да Мяне, калі яго ня схіліць Ацец, Каторы паслаў Мяне, і Я ўваскрашу яго ў вапошні дзень.

45. Напісана ў прарокаў: і ўсе будуць навучаны Богам. Кажны, хто чуў ад Айца і навучыўся, прыходзіць да Мяне.

46. Гэта ня значыць, што ніхто ня бачыў Айца; той, Хто ад Бога, ёсьць адзіным, Каторы бачыў Айца.

47. Запраўды, запраўды кажу вам: хто веруе ў Мяне, мае вечнае жыцьцё.

48. Я хлеб жыцьця.

49. Бацькі вашыя елі манну ў пустыні і паўміралі.

50. Гэта ёсьць хлеб, што зыходзіць зь неба; хто будзе есьці яго, не памрэ.

51. Я - хлеб жывы, што зыйшоў зь неба: хто есьць хлеб гэты, жыць будзе вечна. Хлеб-жа, які Я дам, ёсьць Цела Маё, каторае Я аддам за жыцьцё сьвету.

52. І спрачаліся між сабою Юдэі, кажучы: як Ён можа даць нам есьці цела Сваё?

53. Тады Ісус сказаў ім: запраўды, запраўды кажу вам: калі ня есьцімеце цела Сына Чалавечага і ня піцімеце Ягонае крыві, ня мецімеце жыцьця ў сабе.

54. Хто есьць цела Маё і пье кроў Маю, мае жыцьцё вечнае, і Я ўваскрашу яго ў вапошні дзень.

55. Бо цела Маё запраўды ёсьць ежа, і кроў Мая запраўды ёсьць піцьцё.

56. І хто есьць цела Маё і пье кроў Маю, ува Мне ёсьць і Я ў ім.

57. Як паслаў Мяне жывы Ацец і Я жыву Айцом, гэтак і той, хто есьць Мяне, жыць будзе Мною.

58. Гэты-ж вось і ёсьць хлеб, што зь неба зыйшоў: ня гэтак, як бацькі вашыя елі манну і паўміралі: хто есьць хлеб гэты, жыць будзе вечна.

59. Гэтае гаварыў Ён у сынаґозе вучачы ў Капэрнауме.

60. З гэтае прычыны шматлікія зь Ягоных вучняў, чуючы гэтае, казалі: цьвярдое гэта слова; хто можа слухаць яго?

61. Ісус-жа, ведаючы ў Сабе, што вучні Ягоныя наракаюць на гэта, сказаў ім: ці гэта вас спакушае?

62. А што, калі вы ўгледзіце Сына Чалавечага ўзыходзячага туды, дзе быў раней?

63. Дух гэта, што ажыўляе, цела нічога ня вартае; словы, якія вам кажу, ёсьць дух і жыцьцё.

64. Але ёсьць некаторыя сярод вас, што ня вераць. Бо Ісус наперад ведаў, што ёсьць няверуючыя, і хто здрадзіць Яго.

65. І сказаў: затым бо і казаў Я вам, што ніхто ня можа прыйсьці да Мяне, калі ня будзе яму дадзена Айцом Маім.

66. З гэтае пары многія зь Ягоных вучняў адыйшлі ад Яго і ўжо болей не хадзілі зь Ім.

67. Тады Ісус сказаў дванаццацём: ці ня хочаце і вы адыйсьці?

68. І Сымон Пётра адказаў Яму: Госпадзе, да каго нам ісьці? Ты маеш словы вечнага жыцьця;

69. І мы паверылі, і пазналі, што Ты Хрыстос, Сын Бога жывога.

70. Ісус сказаў ім: ці не дванаццаць вас выбраў Я? Але адзін з вас дыябал.

71. Гэтае гаварыў Ён пра Юду Сымонавага Іскарыёта, бо гэты хацеў прадаць Яго, будучы адным з дванаццацёх.

## РАЗЬДЗЕЛ 7.

Пасьля гэтага Ісус хадзіў па Ґалілеі; па Юдэі не хацеў хадзіць, бо Юдэі шукалі, як-бы забіць Яго.

2. Блізка-ж было сьвята юдэйскае - стаўленьне Табэрнакаў.

3. Тады браты Ягоныя сказалі Яму: выйдзі адгэтуль і ідзі ў Юдэю, каб і вучні Твае бачылі дзеяньні, якія Ты творыш.

4. Бо ніхто ня тоіць таго, што ён чыніць, калі ён хоча быць ведамым. Калі Ты творыш гэтакія рэчы, тады пакажы Самога Сябе сьвету;

5. Бо і браты Ягоныя ня верылі ў Яго.

6. Тады Ісус сказаў ім: Мой час яшчэ не надыйшоў, а для вас заўсёды адпаведны час.

7. Сьвет ня можа ненавідзець вас, а Мяне ненавідзіць, бо Я сьведчу аб ім, што ўчынкі ягоныя благія.

8. Ідзеце вы на гэтае сьвята, а Я яшчэ не пайду на гэтае сьвята, час бо мой яшчэ ня выпаўніўся.

9. І сказаўшы гэта ім, астаўся ў Ґалілеі.

10. Але як браты Ягоныя пайшлі на сьвята, тады і Ён пайшоў на сьвята, але Ён, аднак, не пайшоў яўна, але быццам патайком.

11. Юдэі-ж шукалі Яго на сьвяты і казалі: дзе Ён?

12. І шмат было гутаркі пра Яго ў народзе: адны казалі, што Ён добры, а іншыя казалі: не, бо зводзіць народ.

13. Але ніхто не гаварыў пра Яго яўна, бо баяліся Юдэяў.

14. У палове-ж сьвята ўвайшоў Ісус у сьвятыню і навучаў.

15. І дзівіліся Юдэі, кажучы: як Ён ведае пісаньні, ніколі ня вучыўшыся?

16. Ісус-жа адказаў ім і сказаў: Мая навука не Мая, але Таго, Хто паслаў Мяне.

17. Хто хоча чыніць Ягоную волю, той даведаецца пра навуку, ці ад Бога яна, ці Я сам ад Сябе гавару.

18. Хто гаворыць сам ад сябе, той шукае для сябе славы, а хто шукае славы Таго, Хто паслаў Яго, Той праўдзівы і няма ў Ім няпраўды.

19. Ці ня даў вам Майсей права, і ніхто ня жыве паводля права. Чаму шукаеце прычыну забіць Мяне?

20. І народ адказаў: ці ня дэмана маеш у Сабе? Хто шукае забіць Цябе?

21. І адказваючы, Ісус сказаў ім: адзін учынак Я выканаў, і ўсе вы дзівуецеся.

22. Майсей даў вам абрэзаньне, - не каб яно было ад Майсея, але ад бацькоў, - і ўсё-ж у сыботу вы абрэзваеце чалавека.

23. Калі чалавек атрымлівае абрэзаньне ў сыботу, каб ня было нарушана права Майсея, чаму-ж, тады, нездаволены вы Мною, што Я аздаравіў чалавека ў сыботу?

24. Ня судзеце паводля спазору, але судзеце судом справядлівым.

25. Тады сказалі некаторыя зь Ерузалімцаў: ці ня ёсьць гэта Той, Каторага шукалі, каб забіць?

26. Вось, Ён гаворыць яўна, і нічога ня кажуць Яму. Ці не пераканаліся нашыя кіраўнікі, што Ён ёсьць запраўды Хрыстос?

27. Але мы ведаем Яго, і скуль Ён; калі-ж прыйдзе Хрыстос, ніхто ня будзе ведаць, скуль Ён.

28. І загаварыў тады голасна Ісус у сьвятыні, навучаючы і кажучы: і Мяне ведаеце, і ведаеце скуль Я, і прыйшоў Я не Сам ад Сябе, але праўдзівы Той, Каторы паслаў Мяне, ды Яго вы ня ведаеце.

29. Я ведаю Яго, бо Я ад Яго, і Ён паслаў Мяне.

30. І шукалі, як-бы ўзяць Яго, але ніхто не ўсклаў на Яго рукі, затым, што яшчэ ня прыйшла Ягоная гадзіна.

31. Але многія з народу ўверавалі ў Яго, і казалі: калі прыйдзе Хрыстос, няўжо-ж Ён зробіць болей цудаў, чымся Гэты зрабіў?

32. Фарысэі чулі гэтакія гутаркі пра Яго ў народзе; і паслалі фарысэі і архірэі слуг сваіх, каб узялі Яго.

33. Тады Ісус сказаў ім: яшчэ ня доўга Мне быць з вамі, і пайду да Таго, Хто паслаў Мяне.

34. Будзеце шукаць Мяне і ня знойдзеце, і дзе буду Я, туды вы ня можаце прыйсьці.

35. І гаварылі Юдэі між сабою: куды гэта хоча Ён ісьці, што мы ня знойдзем Яго? Ці не ў гэльленістычнае расьсяленьне хоча Ён ісьці і навучаць Гэльленаў?

36. Што гэта за выражэньне, калі Ён кажа: будзеце шукаць Мяне і ня знойдзеце, і дзе буду Я, туды вы ня можаце прыйсьці?

37. У вапошні-ж дзень гэтага вялікага сьвята Ісус стаяў і клікаў, кажучы: хто смагу мае, ідзі да Мяне і пі.

38. Хто веруе ў Мяне, у таго, як сказана ў Пісаньні, з сэрца пацякуць рэкі жывае вады.

39. Гэта сказаў Ён пра Духа, Каторага меліся прыняць веруючыя ў Яго: бо ня было яшчэ на іх Духа Сьвятога, бо Ісус ня быў яшчэ ўслаўлены.

40. Многія з народу, чуўшы гэтыя словы, казалі: запраўды Ён прарок.

41. Іншыя казалі: гэта Хрыстос. А яшчэ іншыя гаварылі: ці-ж з Ґалілеі прыйдзе Хрыстос?

42. Ці-ж ня сказана ў Пісаньні, што Хрыстос прыйдзе з насеньня Давідавага і з сяла Бэтлеему, скуль паходзіў Давід?

43. Дык і ўзьнялася што да Яго спрэчка між людзьмі.

44. Некаторыя зь іх хацелі ўзяць Яго, але ніхто не падняў рук на Яго.

45. І вярнуліся слугі да архірэяў і фарысэяў і тыя сказалі ім: чаму вы не прывялі Яго?

46. Слугі адказалі: ніколі чалавек не гаварыў гэтак, як гэты чалавек.

47. Фарысэі сказалі ім: няўжо-ж і вас зьвялі?

48. Ці ўвераваў хто-небудзь з нашых старшынь і фарысэяў?

49. Бо пракляты гэты народ, які ня ведае права.

50. І кажа ім Нікадэм адзін зь іх, што прыходзіў да Яго ў начы:

51. Ці су́дзіць нашае права чалавека, ня выслухаўшы перш яго і не даведаўшыся, што́ ён робіць?

52. На гэта адказалі яму і сказалі: ці і ты не з Ґалілеі? Дасьледзь права і даведайся, што ніякі прарок ня прыходзіў з Ґалілеі.

53. І разыйшліся да дамоў сваіх.

## РАЗЬДЗЕЛ 8.

Ісус жа пайшоў на гару Аліўную.

2. Нараніцы-ж зноў прыйшоў у сьвятыню і ўвесь народ ішоў да Яго. І Ён сеў і навучаў іх.

3. Тут кніжнікі і фарысэі прывялі да Яго жанчыну, злоўленую на чужаложстве, і, паставіўшы яе пасярэдзіне,

4. Сказалі Яму: Вучыцелю, гэтая жанчына злоўлена на чужаложстве,

5. А Майсей у праве загадаў нам забіваць гэтакіх каменьнем. І што скажаш Ты?

6. Гаварылі-ж гэта, спакушаючы Яго, каб знайсьці што-небудзь дзеля абвінавачаньня Яго. Але Ісус, нагнуўшыся, пісаў пальцам на зямлі, быццам ня чуе іх.

7. Калі-ж яны не пераставалі пытацца ў Яго, Ён выпраставўся і сказаў ім: хто з вас бяз грэху, няхай першы кіне камень у яе.

8. І зноў, нагнуўшыся пісаў на зямлі.

9. Яны-ж, пачуўшы гэта і дакораныя сваім сумленьнем, павыходзілі адзін за адным, пачынаючы ад старшых і да апошніх; і застаўся адзін Ісус і жанчына, стоячы пасярэдзіне.

10. Ісус, выпраставўшыся і ня бачучы нікогда апрача жанчыны, сказаў ёй: жанчына, дзе тыя, што абвінавачвалі цябе? Ніхто не асудзіў цябе?

11. Яна-ж сказала: ніхто, Госпадзе. Ісус сказаў ёй: і Я не асуджаю цябе: ідзі і не грашы болей.

12. Зноў кажа Ісус да народу: Я сьвятло сьвету; хто пойдзе за Мною, той ня будзе хадзіць у цемры, але меціме сьвятло жыцьця.

13. Тады фарысэі сказалі Яму: Ты Сам пра Сябе сьведчыш; сьведчаньне Тваё няпраўдзівае.

14. Адказаў ім Ісус і сказаў: хоць Я і сьведчу Сам пра Сябе, усё-ж сьведчаньне Маё праўдзівае, бо Я ведаю, скуль Я прыйшоў і куды іду; а вы ня ведаеце, скуль Я і куды іду.

15. Вы судзіце паводля цела; Я ня суджу нікога.

16. А калі і суджу Я, дык суд Мой праўдзівы, бо Я не адзін, але Я і Ацец, Каторы паслаў Мяне.

17. І ў праве вашым гэтаксама напісана, што сьведчаньне двух чалавек праўдівае?

18. Я Сам сьведчу пра Сябе і Ацец, Каторы паслаў Мяне, сьведчыць пра Мяне.

19. Тады яны сказалі Яму: дзе Ацец Твой? Ісус адказаў ім: вы ня ведаеце ані Мяне, ані Айца Майго: калі-б вы ведалі Мяне, ведалі-б і Айца Майго.

20. Гэтыя словы гаварыў Ісус каля скарбонкі, калі вучыў у сьвятыні; і ніхто ня ўзяў Яго, бо яшчэ не надыйшла Ягоная гадзіна.

21. Тады зноў сказаў Ісус ім: Я адыходжу і будзеце шукаць Мяне; і паўміраеце ў грэху сваім. Куды Я іду, вы ня можаце прыйсьці.

22. І тут Юдэі гаварылі: ці не забъе Ён Сам Сябе, калі кажа: куды Я іду, вы ня можаце прыйсьці?

23. І Ён сказаў ім: вы зь ніскасьці, а Я з высокасьці; вы з гэтага сьвету, а Я ня з гэтага сьвету;

24. Затым Я сказаў вам, што вы паўміраеце ў грахох вашых; бо калі не паверыце, што гэта Я, дык паўміраеце ў грахох вашых.

25. Яны-ж сказалі Яму: хто Ты? Ісус сказаў ім: Той Самы як і казаў Я вам з самага пачатку.

26. Шмат Я маю казаць і судзіць пра вас: але Той, Каторы паслаў Мяне, зьяўляецца праўдзівым; і Я, што чуў ад Яго, тое кажу сьвету.

27. Яны не зразумелі, што Ён гаварыў ім пра Айца.

28. Тады сказаў ім Ісус: калі ўздымеце Сына Чалавечага, тады пазнаеце, што Я ёсьць Ім і нічога не раблю Сам зь Сябе, але як Мой Ацец навучыў Мяне, гэтак і гавару.

29. І са Мною Той, Каторы паслаў Мяне: Ацец не пакінуў Мяне аднаго, бо Я заўсёды чыню тое, што падабаецца Яму.

30. Калі Ён гаварыў гэта, шматлікія ўверылі ў Яго.

31. Тады сказаў Ісус Юдэям, што ўверылі ў Яго: калі астанецёся ў слове Маім, дык запраўды вы вучні Мае.

32. І пазнаеце праўду, і праўда ўчыніць вас вольнымі.

33. Яны адказалі яму: мы насеньне Абрага́мава і ніколі нікому ня былі нявольнікамі; як-жаж Ты кажаш: станецеся вольнымі?

34. Ісус адказаў ім: запраўды, запраўды кажу вам: кажны, хто грэшыць, ёсьць нявольнік грэху.

35. Але нявольнік ня жыве ў доме вечна: Сын астаецца на векі.

36. Затым, калі Сын вызваліць вас, вольнымі будзеце запраўды.

37. Я ведаю, што вы насеньне Абрагамава; але вы шукаеце, каб забіць Мяне, бо слова Маё не зьмяшчаецца ў вас.

38. Я кажу тое, што́ бачыў у Айца Майго, а вы робіце тое, што́ бачылі ў айца вашага.

39. Яны адказалі Яму і сказалі: Абрагам зьяўляецца нашым айцом. Ісус адказаў ім: калі-б вы былі дзеці Абрагамавы, дык чынілі-б вы ўчынкі Абрагамавы.

40. А цяперака шукаеце забіць Мяне, Чалавека, Каторы сказаў вам праўду, якую чуў ад Бога; Абрагам гэтага не рабіў.

41. Вы робіце ўчынкі айца вашага. Тады сказалі яны Яму: мы не з распусты роджаныя; аднаго Айца маем, Бога.

42. Ісус сказаў ім: калі-б Бог быў вашым Айцом, дык вы любілі-б Мяне, бо Я ад Бога выйшаў і прыходжу: Я ня Сам ад Сябе прыйшоў, але Ён паслаў Мяне.

43. І чаму вы не разумееце мовы Мае? Бо ня можаце слухаць слова Майго.

44. Вы ад айца дыябала, і вы хочаце выпаўняць прагнасьць вашага айца. Ён быў чалавеказабойцам ад пачатку і ня вытрываў у праўдзе; бо яе нямашака ў ім. Калі ён кажа хлусьню, гаворыць сваё, бо ён ёсьць хлус і бацька маны.

45. І затым, што Я гавару праўду, вы ня верыце Мне.

46. Хто з вас давядзе, што Я ёсьць вінаваты грэху? Калі Я гавару праўду, чаму вы ня верыце Мне?

47. Хто ад Бога, той слухае словы Божыя: вы затым ня слухаеце іх, бо вы не ад Бога.

48. Тады адказалі Яму Юдэі і сказалі: ці-ж няпраўду мы кажам, што Ты Самаранін і, што злога духа ў Сабе маеш?

49. Ісус сказаў: Я ня маю злога духа ў Сабе; але Я паважаю Айца Майго, а вы зьняважаеце Мяне.

50. Дый Я-ж ня шукаю Сваé ўласнае славы: ёсьць Той, Каторы шукае і судзіць.

51. Запраўды, запраўды кажу вам: хто выпаўняе слова Маё, ня ўбачыць сьмерці на векі.

52. Тады сказалі Яму Юдэі: цяперака мы даведаліся, што Ты маеш у Сабе злога духа. Абрагам памер, гэтаксама і прарокі, а Ты кажаш: хто выпаўніць слова Маё, той не спазнае сьмерці на векі.

53. Няўжо-ж Ты большы за айца нашага, Абрагама, каторы памер? і прарокі памерлі: за каго Ты Сябе ўважаеш?

54. Ісус адказаў: Калі Я Сам Сябе слаўлю, дык слава Мая нішто. Мяне славіць Ацец Мой, пра Каторага вы кажаце, што Ён Бог ваш.

55. І вы не пазналі Яго, а Я ведаю Яго, і калі кажу, што ня ведаю Яго, дык буду хлусом, падобным да вас. Але Я ведаю Яго і выпаўняю Ягонае слова.

56. Ваш айцец Абрагам, рад быў бачыць Мой дзень: і ён бачыў яго і цешыўся.

57. Тады Юдэі сказалі Яму: Табе няма яшчэ пяцідзесяці гадоў, і Ты бачыў Абрагама?

58. Ісус адказаў ім: запраўды, запраўды кажу вам: перш, чымся быў Абрагам, Я ёсьць.

59. Тады ўзялі яны камяні, каб кінуць у Яго, але Ісус укрыўся і выйшаў са сьвятыні, прайшоўшы сярод іх; і гэтак пайшоў.

## РАЗЬДЗЕЛ 9.

І праходзячы, Ісус убачыў чалавека, сьляпога ад нараджэньня.

2. І вучні Ягоныя спыталіся ў Яго: Раббі, хто саграшыў: ён, ці бацькі ягоныя, што нарадзіўся сьляпым?

3. Ісус адказаў: не саграшыў ані ён, ані ягоныя бацькі, але дзеля выяўленьня ў ім чынаў Божых.

4. Мне трэба выканаць справы Таго, Хто паслаў Мяне, пакуль дзень; ноч надыходзіць, калі чалавек ня можа рабіць.

5. Пакуль Я на сьвеце, Я сьвятло сьвету.

6. Сказаўшы гэта, Ён плюнуў на зямлю, зрабіў з сьліны гліну і памазаў ёю вочы сьляпому,

7. І сказаў яму: ідзі, памыйся ў купальні Сылоам /што перакладаецца: Пасланы/. Той пайшоў і памыўся і вярнуўся здольным бачыць.

8. Суседзі, затым, і тыя, што бачылі яго раней, што ён быў сьляпы, гаварылі: ці-ж ня той гэта, што сядзеў і прасіў?

9. Адны казалі: гэта ён, а іншыя - падобны да яго; але ён казаў: гэта я.

10. Тады пыталіся ў яго: як адчыніліся вочы твае?

11. І ён, адказваючы, сказаў: чалавек, званы Ісусам, зрабіў гліну, памазаў вочы мае і сказаў мне: пайдзі ў Сылоам і памыйся. Я пайшоў, памыўся і стаў бачыць.

12. Тады сказалі яны яму: дзе Ён? Ён адказаў: ня ведаю.

13. Павялі гэтага былога сьляпога да фарысэяў.

14. А была сыбота таго дня, калі Ісус зрабіў гліну і адчыніў яму вочы.

15. Тады зноў пыталіся яго фарысэі, як ён стаў бачыць. І ён сказаў ім: гліну палажыў Ён на мае вочы, і я памыўся, і бачу.

16. Затым некаторыя з фарысэяў сказалі: не ад Бога гэты чалавек, бо не шануе сыботы. Іншыя казалі: як можа чалавек грэшны чыніць гэтакія цуды? І быў распадзел між імі.

17. І зноў кажуць сьляпому: а што ты скажаш адносна Яго, бо Ён адчыніў табе вочы? І ён адказаў: гэта прарок.

18. Але Юдэі ня верылі, што ён быў сьляпы і стаў бачыць, аж пакуль не паклікалі бацькоў атрымаўшага зрок.

19. І яны спыталіся ў іх, кажучы: ці гэта ваш сын, пра каторага вы кажаце, што ён радзіўся сьляпым? Як-жа ён цяперака бачыць?

20. Бацькі ягоныя, адказваючы, сказалі ім: мы ведаем, што ён наш сын, і што ён радзіўся сьляпым;

21. Але як ён цяперака бачыць, мы ня ведаем; або хто адчыніў яму вочы, мы ня ведаем: сам ён дарослы, яго і пытайцеся: няхай ён сам гаворыць пра сябе.

22. Гэтак адказвалі ягоныя бацькі, бо баяліся Юдэяў, бо Юдэі ўжо згадзіліся, каб кажнага, хто прызнаціме Яго за Хрыста, адлучыць ад сынаґоґі.

23. Затым бо бацькі ягоныя і сказалі: ён дарослы, яго і пытайцеся.

24. Тады яны зноў паклікалі чалавека, што быў сьляпы, і сказалі яму: аддай славу Богу: мы ведаем, што чалавек той грэшнік.

25. Ён-жа адказаў ім і сказаў: ці Ён грэшны, я ня ведаю, адно ведаю, што я быў сьляпы, а цяперака бачу.

26. І зноў сказалі яму: штó Ён зрабіў з табою? як адчыніў табе вочы?

27. Ён адказаў ім: я ўжо казаў вам, і вы ня слухалі; што-ж яшчэ хочаце чуць? Ці-ж бо і вы хочаце стацца Ягонымі вучнямі?

28. Тады дакарылі яны яго, і сказалі: гэта ты вучань Ягоны; але мы Майсеявы вучні.

29. Мы ведаем, што да Майсея гаварыў Бог, а пра гэтага ня ведаем, скуль Ён.

30. Адказваючы, чалавек сказаў ім: гэта дзіўна, што вы ня ведаеце скуль Ён, а Ён адчыніў мне вочы.

31. Мы ведаем, што Бог ня слухае грэшнікаў; але хто славіць Бога і выконвае Ягоную волю, таго слухае.

32. Ад веку ня чуваць было, каб хто-небудзь адчыніў вочы сьляпому ад нараджэньня.

33. Каб Ён ня быў ад Бога, дык ня мог-бы нічога зрабіць.

34. Яму адказалі і сказалі: у грахох ты ўвесь нарадзіўся, і ты вучыш нас? І выгналі яго вон.

35. Ісус, дачуўшыся, што выгналі яго вон, і знайшоўшы яго, сказаў яму: ці верыш ты ў Сына Божага?

36. Адказваючы, ён сказаў: а хто Ён, Госпадзе, каб мне верыць у Яго?

37. Ісус сказаў яму: і ты ўжо бачыў Яго, і Ён ёсьць той, Каторы гаворыць з табою цяперака.

38. Ён-жа сказаў: веру, Госпадзе і пакланіўся Яму.

39. І сказаў Ісус: на суд прыйшоў Я ў гэты сьвет, каб сьляпыя бачылі, а тыя, што бачаць, сталіся сьляпымі.

40. Пачуўшы гэта, некаторыя з фарысэяў, што былі зь Ім, сказалі Яму: няўжо-ж і мы сьляпыя?

41. Ісус сказаў ім: калі-б вы былі сьляпымі, дык ня мелі-б грэху на сабе; але, як вы кажаце, што бачыце, тады грэх астаецца на вас.

## РАЗЬДЗЕЛ 10.

Запраўды, запраўды кажу вам: хто не дзьвярыма ўваходзіць у авечы двор, але пералазіць інакш, той злодзей і разбойнік.

2. А хто ўваходзіць дзьвярыма, той пастыр авечак.

3. Яму адчыняе прыдзьверны, і авечкі чуюць голас ягоны, калі ён кліча сваіх авечак паводля імя, і выводзіць іх.

4. І, калі вывядзе сваіх авечак, ідзе перад імі, і авечкі ідуць за ім, бо ведаюць голас ягоны;

5. За чужым-жа ня ідуць, але ўцякаюць ад яго, бо ня ведаюць чужога голасу.

6. Гэтую прыповесьць сказаў ім Ісус, але яны не зразумелі пра што Ён гаварыў ім.

7. Дый зноў Ісус сказаў ім: запраўды, запраўды кажу вам, што Я дзьверы авечак.

8. Усе, колькі іх ня прыходзіла перада Мною - зладзеі ды грабежнікі, але авечкі ня слухалі іх.

9. Я - дзьверы; хто ўвойдзе праз Мяне, збаўленым будзе, і ўвойдзе і выйдзе, і пасьцьбішча знойдзе.

10. Злодзей прыходзіць толькі дзеля таго, каб украсьці, забіць і загубіць. Я прыйшоў, каб мелі жыцьцё і мелі шмат болей.

11. Я пастыр добры: добры пастыр аддае жыцьцё свае за авечак.

12. А найміт ня пастыр, для якога авечкі не свае; ён бачыць як прыходзіць воўк, і пакідае авечкі і ўцякае: і воўк хапае іх, і разганяе авечкі.

13. Найміт-жа ўцякае, бо ён найміт і ня турбуецца пра авечкі.

14. Я добры пастыр і ведаю, хто Мае - і Мае ведаюць Мяне.

15. Як Ацец ведае Мяне, гэтак і Я ведаю Яго і жыцьцё Маё аддаю за авечак.

16. Маю Я і іншых авечак, што ня з гэтага двара, і гэтых трэба Мне прывесьці, каб і яны пачулі голас Мой; і будзе адно стада і адзін Пастыр.

17. Затым лю́біць Мяне Ацец, што Я аддаю жыцьцё Сваё, каб узяць яго ізноў.

18. Ніхто не бярэ яго ад Мяне, але Я Сам аддаю яго: бо маю ўладу аддаць яго і ўладу ўзяць ізноў яго. Гэты загад Я атрымаў ад Айца Майго.

19. З прычыны гэтых словаў ізноў стаўся распадзел сярод Юдэяў.

20. Шматлікія зь іх казалі: Ён мае злога духа ў Сабе і шалее: чаму вы слухаеце Яго?

21. Іншыя казалі: гэтыя словы ня ёсьць апанаванага злым духам; ці-ж можа злы дух адчыняць вочы сьляпым?

22. І было тады ў Ерузаліме сьвята адновы, і была зіма.

23. І хадзіў Ісус у сьвятыні, у Салямонавым стоа.

24. Тады абступілі Яго Юдэі і казалі Яму: дакуль будзеш трымаць душу нашу ў няпэўнасьці? Калі Ты Хрыстос, скажы нам проста.

25. Ісус адказаў ім: Я сказаў вам, і вы ня верыце; справы, што Я чыню ў імя Айца Майго, яны сьведчаць пра Мяне.

26. Але вы ня верыце, бо вы не з Маіх авечак, гэтак, як і казаў Я вам.

27. Авечкі Мае чуюць голас Мой, і Я ведаю іх, і яны ідуць за Мною.

28. І Я даю ім вечнае жыцьцё, і яны ніколі не памруць; і ніхто ня вырве іх з рукі Мае.

29. Ацец Мой, Каторы даў Мне іх, большы за ўсіх; і ніхто ня можа вырваць іх з рукі Айца Майго.

30. Я і Ацец - адно.

31. Тут зноў Юдэі ўхапіліся за камяні, каб укаменаваць Яго.

32. Ісус адказаў ім: шмат добрых дзеяньняў паказаў Я вам ад Айца Майго; за якое зь іх хочаце Мяне каменаваць?

33. Адказалі Яму Юдэі, кажучы: не за добрае дзеяньне хочам пабіць Цябе каменьмі, але за тое, што Ты зьневажаеш Бога, ды што Ты, будучы чалавекам, чыніш Сябе Богам.

34. Ісус адказаў ім: ці не напісана ў праве вашым: Я сказаў - вы багі.

35. Калі Ён назваў багамі тых, да каторых слова Божае было накіравана /а Пісаньне ня можа быць зламаным/,

36. Дык як-жа Таму, Каторага Ацец усьвяціў і паслаў у сьвет, вы кажаце: зьневажаеш, - за тое, што Я сказаў: Я Сын Божы?

37. Калі Я не раблю дзеяньняў Айца Майго, ня верце Мне, -

38. Калі-ж раблю, і ня верыце Мне, дык верце дзеяньням Маім, каб ведалі і паверылі, што Ацец ўва Мне, і Я ў Ім.

39. І зноў шукалі яны, каб узяць Яго, але Ён ухіліўся з рук іхных.

40. І пайшоў ізноў за Іёрдан, на тое месца, дзе раней хрысьціў Ян, і застаўся там.

41. І шматлікія прыйшлі да Яго і казалі, што Ян не зрабіў ніводнага цуду; але ўсё, што Ян сказаў пра Яго, было праўдзівым.

42. І шматлікія тамака ўверавалі ў Яго.

## РАЗЬДЗЕЛ 11.

Быў-жа адзін хворы Лазар з Бэтаніі, з сяла Марыі і ейнае сястры, Марты.

2. /Гэта была тая Марыя, што памазала Ісуса алéем і абцерла ногі Ягоныя валасамі сваімі; яе брат Лазар быў хворы/.

3. Затым сёстры паслалі сказаць Яму: Госпадзе, вось той, каго Ты любіш, ёсьць хворы.

4. Ісус, пачуўшы гэта, сказаў: хвароба гэтая не на сьмерць, але на славу Божую, каб уславіўся праз яе Сын Божы.

5. Ісус-жа любіў Марту і сястру яе, і Лазара.

6. Калі-ж пачуў, што ён хворы, прабыў два дні ў тым месцы, дзе знаходзіўся.

7. Пасьля гэтага сказаў вучням: пойдзем зноў у Юдэю.

8. Вучні сказалі Яму: Раббі, Юдэі даўно шукалі ўкаменаваць Цябе, і Ты ізноў ідзеш туды?

9. Исус адказаў: ці-ж не дванаццаць гадзінаў мае дзень? Хто ходзіць днем, не спатыкаецца, бо бачыць сьветласьць гэтага сьвету.

10. А хто ходзіць ноччу, спатыкаецца, бо нямашака сьвятла ў ім.

11. Гэта сказаўшы, кажа ім далей: Лазар, прыяцель наш заснуў, але Я іду разбудзіць яго.

12. Вучні-ж Ягоныя сказалі: Госпадзе, калі заснуў, паздаравеé.

13. Ісус гаварыў пра ягоную сьмерць; але яны думалі, што пра супачынак кажа.

14. Тады Ісус проста сказаў ім: Лазар памер;

15. І цешуся Я з увагі на вас, што Я ня быў тамака, каб вы паверылі; але хадзем да яго.

16. Тады Хама, званы Блізьнюк, сказаў сваім сябром і вучням: хадзем і мы, каб памерці зь ім.

17. Ісус, прыйшоўшы, знайшоў, што ён ужо чатыры дні ляжыць у магіле.

18. Бэтанія-ж была блізка каля Ерузаліму, нешта з пятнаццаць стадыяў.

19. І шматлікія з Юдэяў прышлі да Марты і Марыі пацешыць іх з прычыны сьмерці іхнага брата.

20. Марта, пачуўшы, што ідзе Ісус, выйшла насустрэчу Яму; Марыя-ж асталася дома.

21. Тады Марта сказала Ісусу: Госпадзе, каб Ты быў тутака, не памер-бы брат мой.

22. Але і цяперака ведаю, што штоколечы Ты папросіш у Бога, дасьць Табе Бог.

23. Ісус кажа ёй: уваскрэсьне брат твой.

24. Марта кажа Яму: ведаю, што ўваскрэсьне ў дзень уваскрасеньня, у вапошні дзень.

25. Ісус сказаў ёй: Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё; хто веруе ў Мяне, хоць і памрэ, жыць будзе.

26. Кажны, хто жыве і веруе ў Мяне, ніколі не памрэ. Ці верыш ты ў гэта?

27. Яна кажа Яму: так, Госпадзе, я веру, што Ты Хрыстос, Сын Божи, Каторы надыходзіць у сьвет.

28. І сказаўшы гэта, яна пайла і цішком паклікала Марыю, сястру сваю, кажучы: Вучыцель тут і кліча цябе.

29. І як толькі яна пачула гэта, зараз-жа ўстала і пайшла да Яго.

30. Ісус-жа яшчэ не ўвайшоў у сяло, але быў на тым месцы, дзе Марта сустрэла Яго.

31. Тады Юдэі, што былі зь ёю ў доме і цешылі яе, бачучы, што Марыя хутка ўстала і выйшла, пайшлі за ёю, кажучы: яна ідзе на магілу плакаць.

32. Марыя-ж, прыйшоўшы туды, дзе быў Ісус і, угледзіўшы Яго, кінулася ў ногі Яму, кажучы Яму: Госпадзе, калі-б Ты быў тут, не памер-бы брат мой.

33. Ісус-жа, на спазор плачучае яе і плачучых гэтаксама Юдэяў, што прыйшлі зь ёю, затужыў у сэрцы і быў глыбака кранутым.

34. І сказаў: дзе вы палажылі яга? І адказалі Яму: Госпадзе, ідзі і паглядзі.

35. Ісус заплакаў.

36. Тады Юдэі сказалі: глядзі, як Ён любіў яго.

37. А некаторыя зь іх казалі: ці ня мог-бы Гэты, Каторы адчыніў вочы сьляпому, учыніць, каб і гэты не памер?

38. Ісус-жа, далей тужачы ў душы, ідзе да магілы. Гэта была пячора, заваленая каменем.

39. Кажа Ісус: адвалеце камень. Сястра памершага, Марта, кажа Яму: Госпадзе, ужо сьмярдзіць; чатыры бо дні, як памер ён.

40. Ісус кажа ёй: ці не казаў Я табе, што, калі будзеш верыць, убачыш славу Божую.

41. Тады адвалілі яны камень зь месца, дзе ляжаў нябожчык. Ісус-жа ўзьняў вочы ўверх і сказаў: Ойча, дзякую Табе, што Ты пачуў Мяне.

42. Я і так ведаў, што Ты чуеш Мяне заўсёды, але сказаў Я гэта дзеля народу, што тут стаіць, каб яны паверылі, што Ты паслаў Мяне.

43. Сказаўшы гэта, Ён клікнуў гучным голасам: Лазар, выйдзі!

44. І ён, каторы быў памершым, выйшаў з абкручанымі палатном нагамі і рукамі, і аблічча ягонае было абвязана хусткаю. Ісус кажа ім: разьвяжэце яго, і няхай ходзіць.

45. Тады шматлікія з Юдэяў, што прыйшлі да Марыі і бачылі, што учыніў Ісус, уверавалі ў Яго.

46. Але некаторыя зь іх пайшлі да фарысэяў і сказалі ім, што ўчыніў Ісус.

47. Тады архірэі і фарысэі склікалі сынэдрыён і сказалі: што нам рабіць? Чалавек гэты чыніць шмат цудаў.

48. Калі пакінем Яго гэтак, дык усе ўверуюць у Яго, і прыйдуць Рымляне, і забяруць месца нашае і наш народ.

49. Адзін-жа зь іх, нехта Каіяфа, каторы быў у той год высокім архірэем, сказаў ім: вы нічога ня ведаеце.

50. И не берацé пад увагу, што ляпей нам, каб адзін чалавек памер за людзей, чымся каб увесь народ загінуў.

51. І гэта не ад сябе ён сказаў, але, будучы таго году высокім архірэем, прадказаў, што Ісус памрэ за людзей.

52. Дый ня толькі за людзей, але каб і расьцярушаных дзяцей Божых сабраць у вадно.

53. З гэтага дня пастанавілі забіць Яго.

54. Затым Ісус ужо не хадзіў між Юдэямі яўна, але пайшоў адтуль у краіну каля пустыні ў места, званае Эфраім, і там аставаўся з вучнямі Сваімі.

55. Блізка-ж была Пасха юдэйская, і шматлікія з усяе краіны прыйшлі ў Ерузалім перад Пасхаю, каб ачысьціцца.

56. І шукалі Ісуса, і гаварылі міжсобку: як вы думаеце, ці ня прыйдзе Ён на сьвята?

57. Архірэі-ж і фарысэі далі загад, што, калі хто-небудзь даведаецца дзе Ён, каб зараз-жа выявіў, каб узяць Яго.

## РАЗЬДЗЕЛ 12.

За шэсьць дзён да Пасхі прыйшоў Ісус у Бэтанію, дзе быў памершы Лазар, якога Ён уваскрасіў зь мертвых.

2. Там прырыхтавалі Яму вячэру; і Марта абслугоўвала; але Лазар быў адным з супачываўшых зь Ім за сталом.

3. Марыя-ж, узяўшы хунт каштоўнага чыстага нардовага алею, памазала ногі Ісусавы, і выцерла валасамі сваімі Ягоныя ногі: і дом напоўніўся добрапахнасьцю алею.

4. Тады адзін зь Ягоных вучняў, Юда Іскарыёт, каторы маніўся выдаць Яго, сказаў:

5. І чаму не прадалі гэты алей за трыста дынараў і грошы не раздалі бедным?

6. А сказаў-жа ён гэта не затым, што дбаў пра бедных, але затым, што быў злодзей; ён быў механоша, і насіў тое, што клалі ў мяшок.

7. Тады Ісус сказаў: пакінь яе; яна захавала гэта на дзень паховінаў Маіх,

8. Бо бедных заўсёды маеце навакол сябе, а Мяне не заўсёды.

9. І шматлікія з Юдэяў даведаліся, што Ён там; і прыйшлі ня толькі дзеля Ісуса, але каб пабачыць і Лазара, каторага Ён уваскрасіў.

10. Архірэі-ж пастанавілі гэтаксама і Лазара забіць.

11. Бо з прычыны яго шматлікія зь Юдэяў уверавалі ў Ісуса.

12. Назаўтра множства народу, які прыйшоў на сьвята, пачуўшы, што Ісус ідзе ў Ерузалім,

13. Узялі пальмовае вецьце і выйшлі на спатканьне Яму, выклікваючы: Госанна! добраслаўлены Той, што ідзе ў імя Госпада, Кароль Ізраэляў!

14. Ісус-жа, знайшоўшы маладога асла, сеў на яго, як напісана:

15. Ня бойся, дачка Сыёну! глядзі, твой Князь ідзе, седзячы на маладым асьле.

16. Вучні Ягоныя сьпярша не зразумелі гэтага; але калі ўславіўся Ісус, тады ўспомнілі, што гэтак было напісана пра Яго, і гэта зрабілі Яму.

17. Народ-жа, які быў зь Ім раней, сьведчыў, што Ён выклікаў з магілы Лазара і ўваскрасіў яго.

18. З гэтае прычыны народ спаткаў Яго, бо чуў, што Ён зрабіў гэты цуд.

19. Фарысэі-ж гаварылі між сабою: бачыце, ніякага ня мецімеце посьпеху, народ ідзе за Ім.

20. Сярод прыбылых дзеля адданьня пашаны на сьвята былі некаторыя Гэльлены.

21. Яны падыйшлі да Піліпа, што быў з Бэтсаіды Ґалілейскае, і прасілі яго, кажучы: гаспадару, нам хочацца бачыць Ісуса.

22. Піліп ідзе і кажа аб гэтым Андрэю; пасьля гэтага Андрэй і Піліп кажуць пра гэта Ісусу.

23. І Ісус адказаў ім, кажучы: надыйшла гадзіна, каб услаўлены быў Сын Чалавечы.

24. Запраўды, запраўды кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, дык яно астанецца адно, а калі памрэ, дык дасьць багаты плён.

25. Хто любіць душу сваю, загубіць яе; і той, хто ненавідзіць душу сваю на гэтым сьвеце, захавае яе ў жыцьцё вечнае.

26. Хто Мне служыць, няхай ідзе Маім шляхам; і дзе Я, там і слуга Мой будзе; і хто Мне служыць, будзе ў пашане ў Айца Майго.

27. Цяперака душа Мая ўстрывожаная; і што́ Я маю сказаць? Ойча выбаў Мяне ад гадзі́ны гэтае; але-ж дзеля гэтае гадзі́ны і прыйшоў Я.

28. Ойча ўслаў імя Тваё. Тады прыйшоў голас зь неба: І ўславіў, і яшчэ ўслаўлю.

29. Затым народ, які стаяў і чуў гэта, казаў: гэта гром загрымеў. Іншыя казалі: анял гаварыў да Яго.

30. І адказаў Ісус і сказаў: не дзеля Мяне быў гэты голас, але дзеля вас.

31. Цяперака суд сьвету гэтаму; цяперака валадар гэтага сьвету выкінуты будзе.

32. І як Я буду ўзьняты зь зямлі, усіх прыцягну да Сябе.

33. Гаварыў-жа Ён гэта, даючы зразумець, якою сьмерцяю меў Ён памерці.

34. Народ адказаў Яму: мы чулі з права, што Хрыстос прабывае на векі; дык як-жа Ты кажаш, што Сын Чалавечы мае быць узьняты? хто ёсьць гэты Сын Чалавечы?

35. Тады сказаў ім Ісус: яшчэ на малы час сьвятло ёсьць з вамі; хадзеце, пакуль маеце сьвятло, каб не агарнула вас цемра; бо хто ходзіць у цемры, той ня ведае, куды ідзе.

36. Пакуль маеце сьвятло, верце ў сьвятло, каб стацца вам сынамі сьвятла. Сказаўшы гэта, Ісус адыйшоў і схаваўся ад іх.

37. І хоць гэтулькі цудаў учыніў Ён перад імі, яны ня верылі ў Яго,

38. Каб збылося слова Ісаіі прарока, каторы казаў: Госпадзе, хто паверыць пачутаму ад нас, і каму выявілася рука Госпадава?

39. Затым не маглі яны верыць, што, як ізноў Ісаія казаў:

40. Ён засьляпіў вочы іхныя, і сэрцы іхныя абярнуў у камень, каб ня бачылі вачыма і не зразумелі сэрцам сваім, і не навярнуліся, каб Я аздаравіў іх.

41. Гэта сказаў Ісаія, калі бачыў славу Ягоную, і гаварыў пра Яго.

42. Аднак і з галоўных кіраўнікоў шматлікія ўвераваліў Яго, але з прычыны фарысэяў ня вызнавалі Яго, каб ня вылучылі іх з сынаґоґі;

43. Бо болей любілі славу людзкую, чымся славу Божую.

44. Ісус-жа ўзьняў голас і сказаў: хто веруе ў Мяне, не ў Мяне веруе, але ў Таго, Хто паслаў Мяне,

45. І хто бачыць Мяне, бачыць Таго, Хто паслаў Мяне.

46. Я сьвятлом прыйшоў у сьвет, каб кажны, хто веруе ў Мяне, не астаўся ў цемры.

47. І калі хто пачуе Мае словы і не паверыць, Я ня суджу яго; бо Я прыйшоў ня судзіць сьвет, але ратаваць сьвет.

48. Хто адкідае Мяне і ня прыймае слоў Маіх, мае судзьдзю для сябе: слова, каторае Я сказаў, яно будзе судзіць яго ў вапошні дзень;

49. Бо не ад Сябе Я казаў - Ацец, Каторы паслаў Мяне, гэта Ён даў Мне загад, што казаць і гаварыць.

50. Бо Я ведаю, што загад Ягоны ёсьць жыцьцё вечнае. Затым, тое, што Я кажу, кажу гэтак, як сказаў Мне Ацец.

## РАЗЬДЗЕЛ 13.

Перад сьвятам-жа Пасхі Ісус, ведаючы, што надыйшла Ягоная гадзіна перайсьці з гэтага сьвету да Айца, палюбіўшы Сваіх, што на сьвеце, да канца ўзьлюбіў іх.

2. І ў часе вячэры, калі дыябал улажыў ужо ў сэрца Юды Іскарыёта, Сымонавага сына, прадаць Яго,

3. Ісус, ведаючы, што Ацец усё аддаў у Ягоныя рукі і, што Ён ад Бога выйшаў і да Бога ідзе,

4. Устаў ад вячэры, скінуў з Сябе верхнюю вопратку і, узяўшы ручнік, падперазаўся.

5. Пасьля наліў вады ў умывальніцу, і пачаў абмываць ногі вучням і выціраць ручнікам, якім быў падпярэзаны,

6. І падыходзіць да Сымона Пётры, і гэты кажа Яму: Госпадзе, ці Ты маеш абмываць мае ногі?

7. І адказаў яму Ісус і сказаў: тое, што́ Я раблю табе, ты ня ведаеш цяперака, але даведаешся пазьней.

8. Пётра кажа Яму: Ты ніколі ня будзеш мыць ног маіх. Ісус адказаў яму: калі не абмыю цябе, ня меціmеш часткі са Мною.

9. Сымон Пётра кажа Яму: Госпадзе, ня толькі ногі мае, але гэтаксама і рукі мае, і галаву маю.

10. Ісус кажа яму: абмытаму трэба толькі ногі абмыць, бо ўвесь чысты, і вы чыстыя, але ня ўсе.

11. Бо выдаў Ён, хто прадасьць Яго, затым бо і сказаў: ня ўсе вы чыстыя.

12. І як-жа Ён абмыў ім ногі і апрануў Сваю вопратку і ўзьлёг ізноў, Ён сказаў ім: ці ведаеце, што́ Я зрабіў вам?

13. Вы называеце Мяне Вучыцелем і Госпадам і добра кажаце, бо Я і ёсьць гэтакі.

14. Дык вось, калі Я Госпад і Вучыцель, абмыў вам ногі, дык і вы павінны абмываць ногі адзін аднаму:

15. Бо Я даў вам прыклад, каб і вы рабілі тое самае, што́ Я зрабіў вам.

16. Запраўды, запраўды кажу вам: нявольнік ня большы за гаспадара свайго і пасланец ня большы за таго, хто паслаў яго.

17. Калі гэта ведаеце, добраслаўленыя вы, калі гэта чыніце.

18. Не пра ўсіх вас кажу. Я ведаю, каго выбраў. Але няхай збудзецца Пісаньне: той, хто есьць са Мною хлеб, падняў на Мяне пяту сваю.

19. Цяперака кажу вам, раней, чымся гэта сталася, каб вы, як станецца, паверылі, што гэта Я ёсьць.

20. Запраўды, запраўды кажу вам: хто прыймае таго, каго Я пашлю, Мяне прыймае; а хто Мяне прыймае, прыймае Таго, Хто паслаў Мяне.

21. Сказаўшы гэта Ісус затрывожыўся ў духу і засьведчыў, і сказаў: запраўды, запраўды кажу вам, што адзін з вас прадасьць Мяне.

22. Тады вучні аглядаліся адзін на аднаго, ня ведаючы пра каго Ён гаворыць.

23. Адзін-жа з вучняў Ягоных за сталом, каторага любіў Ісус, супачываў на грудзёх Ісусавых.

24. Затым Сымон Пётра кіўнуў яму, каб запытаў, хто гэта мае быць, пра каго Ён гаворыць.

25. І той, прыпаўшы да грудзей Ісусавых, сказаў Яму: Госпадзі, хто гэта?

26. І адказаў Ісус: той, каму Я, абмачыўшы кусок хлеба, падам. І, абмачыўшы кусок, падаў Юдзе Іскарыёту, Сымонаваму сыну.

27. І пасьля гэтага куска ўвайшоў у яго шатан. І кажа яму Ісус: што́ робіш, рабі хутчэй.

28. Але ніхто з прысутных не зразумеў, што́ і да чаго гэта Ён сказаў яму.

29. Бо некаторыя зь іх думалі, затым, што ў Юды быў мяшок, быццам Ісус кажа яму: купі, што́ трэба нам на сьвята, або каб даў што-небудзь убогім.

30. І ён, узяўшы кусок, зараз-жа выйшаў. І была ноч.

31. Калі-ж ён выйшаў, Ісус сказаў: цяперака ўславіўся Сын Чалавечы, і Бог уславіўся ў Ім.

32. Калі Бог уславіўся ў Ім, дык Бог уславіць і Яго ў Сабе, і ў хуткім часе ўславіць Яго.

33. Дзеці, ужо нядоўга Мне быць з вамі. Будзеце шукаць Мяне; але Я кажу вам цяперака тое, што́ казаў Я Юдэям: куды Я іду, вы ня можаце ісьці.

34. Новы загад даю вам, каб любілі вы адзін аднаго; гэтак, як Я любіў вас, так і вы любеце адзін аднаго.

35. Па гэтым пазна́юць усе, што вы вучні Мае, калі мецімеце любоў адзін да аднаго.

36. Кажа Яму Сымон Пётра: Госпадзе, куды Ты ідзеш? Ісус адказаў яму: куды Я іду, ты ня можаш ісьці за Мною цяперака; але пойдзеш за Мною пазьней.

37. Пётра сказаў Яму: Госпадзе, чаму я не магу ісьці за Табою цяперака? Я душу маю палажу за Цябе.

38. Ісус адказаў яму: душу сваю паложыш за Мяне? Запраўды, запраўды кажу табе: не прапяе певень, як тройчы адрачэшся ад Мяне.

## РАЗЬДЗЕЛ 14.

Няхай не сумляваецца сэрца вашае; веруйце ў Бога і веруйце ў Мяне.

2. У доме Айца Майго шмат сьвятліц; каб-жа ня гэтак было, сказаў-бы Я вам. Я іду прырыхтаваць вам месца.

3. І калі пайду і прырыхтую вам месца, прыйду ізноў і вазьму вас да Сябе, каб і вы былі там, дзе Я.

4. І куды Я іду, вы ведаеце, і дарогу ведаеце.

5. Кажа Яму Хама: Госпадзе, мы ня ведаем куды Ты ідзеш, дык як можам ведаць дарогу?

6. Ісус адказаў яму: Я і дарога, і праўда, і жыцьцё. Ніхто ня прыходзіць да Айца, адно праз Мяне.

7. Калі-б вы ведалі Мяне, ведалі-б і Айца Майго; і ад гэтае пары вы ведаеце Яго і бачылі Яго.

8. Кажа Яму Піліпп: Госпадзе, пакажы нам Айца, і годзе з нас.

9. Кажа яму Ісус: гэтулькі часу Я з вамі, і ты, Піліпп, не пазнаў Мяне? Хто бачыў Мяне, бачыў Айца; як-жа ты кажаш: пакажы нам Айца?

10. Ці-ж ты ня верыш, што Я ў Айцу і Ацец ўва Мне? Словы, што Я кажу вам, Я не кажу ад Сябе. Ацец, Каторы ўва Мне, Ён творыць учынкі.

11. Верце Мне, што Я ў Айцу, і Ён ўва Мне: або верце Мне з прычыны тых самых учынкаў.

12. Запраўды, запраўды кажу вам: хто веруе ў Мяне, будзе рабіць учынкі, якія Я раблю, дый нават большыя за іх зробіць: бо Я да Айца Майго іду.

13. І калі што напросіце ў імя Маё, тое ўчыню, каб Ацец быў услаўлены ў Сыне.

14. І калі напросіце што-небудзь у імя Маё, Я ўчыню.

15. Калі вы любіце Мяне, перасьцерагайце запаведзі Мае.

16. І Я буду прасіць Айца, і Ён дасьць вам іншага Пацяшыцеля, каб быў з вамі на векі.

17. Духа праўды, Каторага сьвет ня можа прыняць, бо ня бачыць Яго, ані нават ведае Яго: але вы ведаеце Яго, бо Ён з вамі ёсьць і ў вас будзе.

18. Не пакіну вас сіратамі; прыйду да вас.

19. Яшчэ крыху, і сьвет ужо ня ўбачыць Мяне, але вы ўбачыце Мяне, бо Я жыву, і вы жыць будзеце.

20. У той дзень даведаецеся, што Я ў Айцу, і вы ўва Мне, і Я ў вас.

21. Той, хто мáе загады Мае і перасьцерагае іх, той любіць Мяне, а таго, хто любіць Мяне, любіціме Ацец Мой, і Я палюблю яго і зьяўлюся яму Сам.

22. Юда /не Іскарыёт/ кажа Яму: Госпадзе, чаму гэта Ты хочаш зьявіць Сябе нам, а ня сьвету?

23. І адказаў яму Ісус і сказаў: хто любіць Мяне, той перасьцерагае слова Маё; і Ацец Мой палюбіць яго; і Мы прыйдзем да яго і сялібу Сабе ўчынім у яго.

24. Той, хто ня любіць Мяне, ня выконвае словаў Маіх; слова-ж, якое вы чуеце, ня ёсьць Маё, але Айца, Каторы паслаў Мяне.

25. Гэта сказаў Я вам, будучы з вамі.

26. Пацяшыцель-жа, Дух Сьвяты, Каторага пашле Ацец у імя Маё, навучыць вас усяго і прыпомніць вам усё, што Я казаў вам.

27. Супакой пакідаю вам, Мой супакой даю вам; не, як сьвет дае, даю Я вам: няхай не сумляваецца сэрца вашае і не баіцца.

28. Вы чулі, што Я сказаў вам: іду ад вас і прыйду да вас. Калі-б вы любілі Мяне, дык усьцешыліся-б, што Я сказаў: іду да Айца, бо Ацец Мой большы за Мяне.

29. І вось, Я сказаў вам пра гэта наперад, чымся сталася, каб вы паверылі, як станецца.

30. Ужо ня буду шмат гаварыць з вамі: бо надыходзіць валадар гэтага сьвету; і ён ня мае моцы нада Мною.

31. Але каб сьвет ведаў, што Я люблю Айца, і як загадаў Мне Ацец, гэтак і раблю: устаньце, хадзем адгэтуль.

## РАЗЬДЗЕЛ 15.

Я ёсьць запраўдная вінаградная лаза, і Ацец Мой вінаградар.

2. Усякую галіну ўва Мне, якая не дае плоду, Ён абцінае; і ўсякую, што дае плод, абчышчае, каб болей пладоў давала.

3. Вы ўжо ачышчаны праз слова, што Я гаварыў вам.

4. Будзьце-ж ува Мне, і Я ў вас. Гэтак, як галіна ня можа даваць плоду сама сабою, калі ня будзе на лазе, гэтак і вы, калі ня будзеце ўва Мне.

5. Я ёсьць лаза, а вы галіны; хто прабывае ўва Мне і Я ў ім, той прыносіць багата плоду; бо бязь Мяне ня можаце ўчыніць нічога.

6. Хто не прабывае ўва Мне, будзе выкінены вон, як галіна і высахне; і гэтакія галіны зьбіраюць і кідаюць у вагонь, і яны згараюць.

7. Калі будзеце ўва Мне, і словы Мае ў вас, дык, што́ хочаце, прасеце, і будзе дадзена вам.

8. І гэтым выявіцца Айца Майго слава, калі вы прынясеце багаты плод і будзеце Маімі вучнямі.

9. Як палюбіў Мяне Ацец, гэтак Я палюбіў вас; астаньцеся-ж у любові Маей.

10. Калі выканаеце загады Мае, астанецеся ў любові Маей, як і Я выканаў загады Айца Майго і астаюся ў Ягонай любові.

11. Гэта сказаў Я вам, каб радасьць Мая была ў вас, і каб радасьць вашая была поўная.

12. Вось запаведзь Мая: любеце адзін аднаго, як Я палюбіў вас.

13. Ніхто ня мае любові большае за тую, як калі хто аддасьць душу сваю за прыяцеляў сваіх.

14. Вы прыяцелі Мае, калі выконваеце тое, што́ Я запаведую вам.

15. Я ўжо не называю вас слугамі, бо слуга ня ведае, што робіць гаспадар ягоны: але Я назваў вас прыяцелямі, бо ўсё, што чуў ад Айца Майго, Я пераказаў вам.

16. Ня вы Мяне выбралі, але Я выбраў вас і паставіў вас, каб ішлі і прыносілі плод, і каб плод ваш трываў; каб, што папросіце ў Айца ў імя Маё, Ён даў вам.

17. Гэта запаведую вам: любеце адзін аднаго.

18. Калі сьвет вас ненавідзіць, ведайце, што Мяне раней за вас зьненавідзіў.

19. Калі-б вы былі са сьвету, дык сьвет любіў-бы сваіх, але, як вы не са сьвету, а Я выбраў вас са сьвету, затым сьвет ненавідзіць вас.

20. Памятайце слова, якое Я сказаў вам: слуга ня большы за гаспадара свайго. Калі Мяне прасьледавалі, будуць прасьледаваць і вас; калі Маё слова перасьцерагалі, перасьцерагацімуць і вашае слова.

21. Але ўсё гэта рабіцімуць вам дзеля імя Майго, бо ня ведаюць Таго, Хто паслаў Мяне.

22. Калі-б Я ня прыйшоў і не казаў ім, дык ня мелі-б грэху; але цяперака ня маюць адгаворкі ў грэху сваім.

23. Той, хто ненавідзіць Мяне, ненавідзіць і Айца Майго.

24. Калі-б Я не стварыў між імі ўчынкаў, якіх ніхто іншы не рабіў, дык ня мелі-б яны грэху, але цяперака і бачылі, і зьненавідзілі Мяне і Айца Майго.

25. Але нязай-жа споўніцца слова, напісанае ў праве іхным: зьненавідзілі Мяне дарэмна.

26. Калі-ж прыйдзе Пацяшыцель, Каторага Я пашлю вам ад Айца, Дух праўды, Ён будзе сьведчыць пра Мяне.

27. Гэтаксама і вы будзеце сьведчыць, бо вы ад пачатку са Мною.

## РАЗЬДЗЕЛ 16.

Гэта ўсё сказаў Я вам, каб вы не спадмануліся.

2. Выганяць вас будуць з сынаґоґаў; дый гадзíна надыходзіць, калі кажны, хто забъе вас, будзе думаць, што служыць гэтым Богу.

3. І гэтак будуць рабіць вам, бо не пазналі ані Айца, ані Мяне.

4. Але сказаў Я вам гэта, каб вы, як прыйдзе той час, прыпомнілі, што Я гаварыў вам пра гэта; не гаварыў-жа вам гэтага спачатку, бо быў з вамі.

5. Цяпер-жа іду да Таго, Хто паслаў Мяне, і ніхто з вас ня пытаецца ў Мяне: куды ідзеш?

6. Але затым, што Я сказаў вам гэта, сум напоўніў сэрца вашае.

7. І ўсё-ж, Я праўду кажу вам: ляпей для вас, каб Я пайшоў; бо калі Я не пайду, Пацяшыцель ня прыйдзе да вас, калі-ж пайду, пашлю Яго да вас.

8. І Ён, прыйшоўшы, карыцімець сьвет адносна грэху, справядлівасьці і суду.

9. Адносна грэху, бо ня вераць у Мяне;

10. Адносна справядлівасьці, бо Я іду да Айца Майго, і ўжо ня будзеце бачыць Мяне;

11. Адносна суду, бо валадар гэтага сьвету засуджаны.

12. Яшчэ шмат маю сказаць вам, але вы ня здолееце перанесьці гэтага цяперака.

13. Калі-ж прыйдзе Ён, Дух праўды, дык навучыць вас усякае праўды, бо не ад Сябе гаварыціме, але гаварыціме тое, што́ пачуе, і абвесьціць вам, што́ мае прыйсьці.

14. Ён уславіць Мяне, затым што ад Майго возьме і вам абвесьціць.

15. Усё, што мае Ацец, ёсьць Маё; дык Я і сказаў, што ад Майго возьме і абвесьціць вам.

16. Хутка вы не пабачыце Мяне; дый ізноў хутка ўгледзіце Мяне, бо Я іду да Айца.

17. Тады некаторыя зь Ягоных вучняў гаварылі між сабою: што́ гэта Ён кажа нам: хутка ня будзеце бачыць Мяне ды зноў хутка ўгледзіце Мяне, і Я іду да Айца?

18. Затым казалі яны: што́ гэта значыць, калі кажа Ён: хутка? Ня ведаем што́ кажа.

19. І пазнаў Ісус, што хочуць спытацца ў Яго, і сказаў ім: ці пра тое пытаецеся адзін аднаго, што Я сказаў: хутка ня будзеце бачыць Мяне і зноў хутка ўгледзіце Мяне?

20. Запраўды, запраўды кажу вам: вы заплачаце і загалосіце, а сьвет будзе радавацца; вы сумнымі будзеце, але сум ваш абернецца ў радасьць.

21. Жанчына, калі родзіць, тужыць, што прыйшла гадзі́на яе, але, калі народзіць дзіця, ад радасьці, ужо не памятае тугі, бо нарадзіўся чалавек на сьвет.

22. Гэтак і вы, цяперака тужыце, але Я ўбачу вас ізноў, і ўзрадуецца сэрца вашае, і радасьці вашае ніхто не адбярэ ад вас.

23. І ў той дзень вы ня будзеце пытацца ў Мяне пра нічога. Запраўды, запраўды кажу вам: штоколечы папросіце Айца ў імя Маё, дасьць вам.

24. Да сягоньня вы нічога не прасілі ў імя Мае; прасеце і атрымаеце, каб радасьць ваша была поўная.

25. Дагэтуль, Я гаварыў вам прыповесьцямі; але надыходзіць гадзіна, калі ўжо ня буду гаварыць прыповесьцямі, але проста апавяшчу вам пра Айца.

26. У той дзень прасіцімеце ў імя Маё, і не кажу вам, што буду прасіць Айца за вас.

27. Бо Ацец Сам любіць вас, бо вы палюбілі Мяне і паверылі, што Я зыйшоў ад Бога.

28. Я зыйшоў ад Айца і прыйшоў у сьвет і зноў пакідаю сьвет ды іду да Айца.

29. Вучні Ягоныя сказалі Яму: вось Ты цяперака проста гаворыш і ніякае прыповесьці ня кажаш.

30. Цяперака мы пэўнымі зьяўляемся, што Ты ведаеш усё і ня маеш патрэбы, каб хто пытаўся Цябе. Затым верым, што Ты ад Бога зыйшоў.

31. Ісус адказаў ім: цяперака верыце?

32. Вось надыходзіць гадзіна, дый ужо надыйшла, калі вы расьцярушыцеся кажны ў свой бок і пакінеце Мяне аднаго: і ўсё-ж, Я не зьяўляюся адзін, бо Ацец са Мною ёсьць.

33. Гэта сказаў Я вам, каб вы супакой мелі ўва Мне. На сьвеце гора меці будзеце, але будзьце добрае думкі: Я перамог сьвет.

## РАЗЬДЗЕЛ 17.

Пасьля словаў гэтых Ісус узьняў вочы свае на неба і сказаў: Ойча, надыйшла гадзіна: праслаў Сына Твайго, каб і Сын Твой праславіў Цябе:

2. Гэтак, як Ты даў Яму ўладу над усякім целам, каб і тым усім, што Ты даў Яму, Ён даў жыцьцё вечнае.

3. А гэта-ж і ёсьць жыцьцё вечнае, каб пазналі Цябе адзінага праўдзівага Бога, і Ісуса Хрыста, Каторага Ты паслаў.

4. Я ўславіў Цябе на зямлі, завяршыў чын, які Ты даў Мне выканаць.

5. І цяперака праслаў Мяне Ты, Ойча, у Цябе Самога славаю, якую Я меў у Цябе перад быцьцём сьвету.

6. Я выявіў імя Твае людзям, якіх Ты Мне даў са сьвету; яны былі Твае, і Ты іх даў Мне, і яны захавалі слова Тваё.

7. Цяперака яны пазналі, што ўсё, што Ты даў Мне, гэта ад Цябе.

8. Бо словы, якія Ты даў Мне, Я даў ім, і яны прынялі і запраўды зразумелі, што Я ад Цябе зыйшоў, і паверылі, што Ты Мяне паслаў.

9. Я за іх прашу, не за ўвесь сьвет прашу, але за тых, якіх Ты даў Мне, бо яны Твае.

10. І ўсе Мае Твае, і Твае - Мае, і Я ўславіўся ў іх.

11. І Я ўжо не на сьвеце болей, але яны на сьвеце, і Я да Цябе іду. Ойча сьвяты! Захавай іх у імя Твае, тых, каторых Ты даў Мне, каб яны былі адно, як і Мы.

12. Калі Я быў на сьвеце зь імі, Я захаваў іх у імя Твае; тых, каторых Ты Мне даў, Я захаваў, і ніхто зь іх не загінуў, апрача сына загубы, каб збылося Пісаньне.

13. Цяпер-жа іду да Цябе, і кажу гэта на сьвеце, каб яны мелі радасьць Маю поўную ў сабе.

14. Я даў ім слова Тваё, і сьвет зьненавідзіў іх, бо яны не са сьвету, як і Я не са сьвету.

15. Я не прашу, каб Ты ўзяў іх са сьвету, але каб захаваў іх ад зла.

16. Яны не са сьвету, як і Я не са сьвету.

17. Асьвяці іх Тваею праўдаю: слова Тваё ёсьць праўда.

18. Як Ты паслаў Мяне ў сьвет, гэтак і Я паслаў іх у сьвет.

19. І за іх Я пасьвячаю Сябе, каб і яны былі пасьвенчаны праўдаю.

20. Не за іх-жа толькі прашу, але і за тых, што вераць у Мяне паводля іхнага слова.

21. Няхай будуць усе адно: як Ты, Ацец ува Мне, і Я ў Табе, гэтак і яны няхай будуць адно, каб сьвет паверыў, што Ты паслаў Мяне.

22. І славу, якую Ты даў Мне, Я даў ім, каб былі адно, як Мы адно.

23. Я ў іх, і Ты ўва Мне; каб былі злучаны ў вадно, і няхай сьвет пазнае, што Ты паслаў Мяне і палюбіў іх, як Ты палюбіў Мяне.

24. Ойча, каторых Ты Мне даў, хачу, каб там, дзе Я, і яны былі са Мною, ды няхай бачаць славу Маю, якою Ты надарыў Мяне: бо Ты палюбіў Мяне перад існаваньнем сьвету.

25. Ойча справядлівы, сьвет Цябе не пазнаў, але Я пазнаў Цябе, і яны пазналі, што Ты паслаў Мяне.

26. І Я абвесьціў ім імя Тваё, і абвяшчаю, каб любоў, якою Ты палюбіў Мяне, і ў іх была, і Я ў іх.

## РАЗЬДЗЕЛ 18.

Сказаўшы гэта, Ісус выйшаў з вучнямі Сваімі за ручай Кедрон, дзе быў сад, у які ўвайшоў Ён і вучні Ягоныя.

2. Ведаў-жа гэтае месца і Юда, што прадаў Яго, бо Ісус і вучні Ягоныя часта тамака зьбіраліся.

3. Вось Юда, узяўшы групу жаўнераў і паслугуючых ад архірэяў і фарысэяў, прыходзіць туды зь ліхтарнямі і сьветачамі, і са зброяю.

4. Ісус-жа ведаючы ўсё, што́ мае зь Ім здарыцца, выйшаў наперад і сказаў ім: каго шукаеце?

5. Яму адказалі: Ісуса з Назарэту. Ісус кажа ім: гэта Я. Стаяў-жа зь імі і Юда, што прадаў Яго.

6. І калі сказаў ім: гэта Я, яны адступіліся назад і ўпалі на зямлю.

7. Тады зноў запытаўся Ён іх: каго шукаеце? Яны сказалі: Ісуса з Назарэту.

8. Ісус адказаў: Я сказаў вам, што гэта Я; затым, калі вы шукаеце Мяне, тады дайце гэтым адыйсьці:

9. Каб збылося слова, сказанае Ім: в тых, каторых Ты даў Мне, Я не загубіў нікога.

10. Сымон-жа Пётра, маючы меч, выцягнуў яго і ўдырыў архірэявага слугу і адсёк яму правае вуха; імя слугі было Ма́льхос.

11. Тады Ісус сказаў Пётру: укладзі меч у похву. Няўжо-ж Я ня маю піць чары, якую даў Мне Ацец?

12. Тады жаўнеры і хіліа́рхос, і паслугуючыя юдэйскія ўзялі Ісуса і зьвязалі Яго,

13. І завялі Яго сьпярша да Ганны, бо ён быў цесьцем Каіа́фы, каторы быў на той год высокім архіерэем.

14. Гэта быў той Каіафа, каторы параіў Юдэям, што ляпей аднаму чалавеку памерці за народ.

15. За Ісусам ішоў Сымон Пётра і іншы вучань; вучань гэты быў ведамы першаархірэю, і ўвайшоў з Ісусам на архірэйскі панадворак,

16. Але Пётра стаяў каля варотаў знадворку. Тады выйшаў той іншы вучань, ведамы першаархірэю і сказаў прыдзьверніцы, і ўвёў Пётру.

17. Тады дзяўчына прыдзьверніца кажа Пётру: ці ня ты гэтаксама адін з вучняў гэтага чалавека? І ён кажа: я не.

18. У між часе, нявольнікі і паслугуючыя распалілі агонь, бо было сьцюдзена, - і стаялі, і грэліся. Пётра гэтаксама стаяў зь імі і грэўся.

19. Тады першаархірэй пытаўся ў Ісуса адносна вучняў Ягоных, і адносна Ягонае навукі.

20. Ісус адказаў яму: Я яўна гаварыў сьвету; Я заўсёды вучыў у сынаґозе і ў сьвятыні, дзе звычайна зьбіраюцца Юдэі і пакрымя не гаварыў нічога.

21. Чаму ты пытаешся ў Мяне? Пытайся тых, каторыя чулі, што́ Я казаў ім; яны бо ведаюць, што́ Я казаў.

22. Як-жа Ён сказаў гэта, адзін з паслугуючых, што стаюяў блізка, удырыў Ісуса па абліччу і сказаў: гэтак ты адказваеш высокаму архіерэю?

23. Ісус адказаў яму: калі Я сказаў блага, дай сьведчаньне, што блага, а калі добра - за што бъеш Мяне?

24. Ганна паслаў Яго зьвязанага да высокага архірэя, Каіафы.

25. Сымон-жа Пётра стаяў і грэўся. Тады сказали яму: ці і ты не зь Ягоных вучняў? І ён адрокся, і сказаў: я не.

26. Адзін з нявольнікаў першаархірэйскіх, сваяк таго, катораму Пётра адсек вуха, кажа: ці-ж не цябе я бачыў зь Ім у садзе?

27. Тады Пётра зноў адрокся; і зараз-жа певень запяяў.

28. Ад Каіафы павялі Ісуса ў прэторыю. Была раніца, і яны не ўвайшлі ў прэторыю, каб не занячысьціцца, ды каб можна было есьці пасху.

29. Пілат выйшаў да іх і сказаў: у чым вінавацціце вы чалавека гэтага?

30. Адказваючы, яны сказалі яму: калі-б Ён ня быў чыніцель зла, мы ня выдалі-б табе Яго.

31. Тады Пілат сказаў ім: вазьмеце вы Яго і ў сузгоднасьці з вашым правам судзеце Яго. Юдэі сказалі яму: нам не дазволена нікога караць сьмерцяю.

32. Каб споўнілася слова Ісусава, якое Ён сказаў, даючы зразумець, якою сьмерцяю мае Ён памерці.

33. Тады Пілат ізноў увайшоў у прэторыю і, прыклікаўшы Ісуса, сказаў Яму: Ты Кароль Юдэйскі?

34. Ісус адказаў яму: ці ад сябе ты гаворыш гэта, ці мо іншыя сказалі табе гэта пра Мяне?

35. Пілат адказаў: ці-ж я зьяўляюся Юдэем? Твой уласны народ і першаархірэі выдалі Цябе мне: што Ты зрабіў?

36. Ісус адказаў: гаспадарства Маё ня з гэтага сьвету; калі-б гаспадарства Маё было з гэтага сьвету, дык слугі Мае змагаліся-б, каб Я ня быў выдадзены Юдэям; ізноў-жа, гаспадарства Маё ня згэтуль.

37. Пілат сказаў Яму: дык Ты Кароль? Ісус адказаў: ты кажаш, што Я Кароль. Затым бо Я і радзіўся, і затым прыйшоў у сьвет, каб даць сьвядоцтва праўдзе. Кажны, хто з праўды, слухае голас Мой.

38. Пілат кажа Яму: што ёсьць праўда? І сказаўшы гэта, ізноў выйшаў да Юдэяў і сказаў ім: я не знаходжу ў Ім ніякае віны.

39. Ёсьць у вас звычай, каб я аднаго звольніў вам на Пасху: хочаце вы, затым, каб я звольніў вам Караля Юдэйскага?

40. Тады ізноў закрычэлі ўсе, кажучы: не Яго, але Бараббу! А Барабба быў разбойнік.

## РАЗЬДЗЕЛ 19.

Тады Пілат узяў Ісуса і бічаваў Яго.

2. А жаўнеры сплялі вянок зь церня і ўзлажылі Яму на галаву, і апранулі Яго ў плашч пурпурны,

3. І падыходзілі да Яго, і казалі: радуйся, Кароль Юдэйскі! І білі Яго па абліччу.

4. Пілат ізноў выйшаў і сказаў ім: вось я выводжу Яго да вас, каб вы ведалі, што я ніякае віны не знаходжу ў Ім.

5. Тады выйшаў Ісус у цярнёвай кароне і ў пурпурным плашчы. І кажа ім Пілат: вось Чалавек!

6. Як-жа ўбачылі Яго першаархірэі і іхныя слугі, пачалі крычэць, кажучы: укрыжуй Яго, укрыжуй! Пілат кажа ім: вазьмеце Яго і ўкрыжуйце вы самыя, бо я не знаходжу ў Ім ніякае віны.

7. Юдэі адказалі яму: мы маем права, і паводля нашага права, Ён мае памерці, бо учыніў Сябе Сынам Божым.

8. Пілат пачуўшы гэтае слова, яшчэ болей спужаўся;

9. І вярнуўся ізноў у прэторыю і сказаў Ісусу: скуль Ты? Але Ісус не адказаў яму нічога.

10. Пілат кажа Яму: Ты мне не адказваеш? Ці ня ведаеш Ты, што я магу ўкрыжаваць Цябе і магу звольніць Цябе?

11. Ісус адказаў яму: ты ня меў-бы ніякае ўлады нада Мною, калі-б табе ня было дадзена з вышыні; дзеля гэтага болей грэху на тым, хто Мяне выдаў табе.

12. З гэтае пары Пілат стараўся звольніць Яго. Юдэі-ж крычэлі, кажучы: калі звольніш Яго, дык ты не зьяўляешся прыяцелем цэсара; кажны, хто выдае сябе за караля, выступае супроць цэсара.

13. Пачуўшы гэтакае слова, Пілат вывеў Ісуса навонкі і сеў на пасад судовы, што называўся літостротос, а па-гэбрэйску габбата.

14. Была-ж тады пятніца перад Пасхаю і гадзіна шостая. І сказаў Пілат Юдэям: вось Кароль ваш!

15. Але яны закрычэлі: вазьмі, вазьмі, укрыжуй Яго! Пілат кажа ім: маю-ж я укрыжаваць вашага Караля? Першаархірэі адказалі: няма ў нас Караля, адно цэсар.

16. Тады ён выдаў ім Яго на ўкрыжаваньне. І ўзялі Ісуса і павялі.

17. І, нясучы крыж Свой, Ён выйшаў на Месца Чэрапу, па-гэбрэйску Ґольґота,

18. Дзе яны ўкрыжавалі Яго і двух іншых абапал Яго, а Ісуса ў сярэдзіне.

19. Пілат-жа напісаў і напіс і ўмясцовіў на крыжу. Напісана было: Ісус Назарэй Кароль Юдэйскі.

20. Гэты напіс чыталі шматлікія з Юдэяў, бо месца, дзе быў укрыжаваны Ісус, было надалёка ад места, дый напісана было па-гэбрэйску, па-рымску і па-грэцку.

21. Першаархірэі-ж юдэйскія сказалі Пілату: ня пішы: Кароль Юдэйскі, але, што Ён казаў: Я Кароль Юдэйскі.

22. Пілат адказаў: што я напісаў, тое напісаў.

23. Жаўнеры-ж, укрыжаваўшы Ісуса, узялі вопратку Ягоную і разьдзялілі на чатыры часткі - кажнаму жаўнеру частка, дый хітон; хітон-жа быў ня шыты, але ўвесь вытканы ад верху;

24. І сказалі яны адзін аднаму: ня будзем разьдзіраць яго, але кінем жэрабя: чый ён будзе, каб збылося сказанае ў пісаньні: Падзялілі адзежу Маю між сабою і адносна вопраткі Мае жэрабя кідалі. Гэтак і ўчынілі жаўнеры.

25. Стаялі-ж ля крыжа Ісусавага маці Ягоная і сястра маці Ягонае, Марыя Кляопава, і Марыя Маґдалена.

26. Ісус-жа, убачыўшы маці Сваю і блізка стоячага вучня, каторага любіў, кажа маці Сваей: жанчына, вось сын твой.

27. Пасьля кажа вучню: вось маці твая. І з гэтае пары вучань гэты ўзяў яе да сябе.

28. Пасьля гэтага, Ісус, ведаючы, што ўжо ўсё збылося, кажа: смагну.

29. Тут стаяла судзіна, поўная воцату. Жаўнеры, напоўніўшы воцатам губку і ўзьдзеўшы яе на гіссопавую трысьціну, узьнялі да вуснаў Ягоных.

30. Ісус-жа, паспытаўшы воцату, сказаў: збылося! І, пахіліўшы галаву, аддаў дух.

31. Затым, што тады была пятніца, дык Юдэі, каб не пакінуць целаў на крыжох у сыботу, - бо дзень тае сыботы быў вялікі, - прасілі Пілата, каб перабіць іхныя галені і зьняць іх.

32. Тады прыйшлі жаўнеры і ў першага перабілі галені, і ў другога ўкрыжаванага зь Ім.

33. Але, калі яны падыйшлі да Ісуса і ўбачылі, што Ён памер ужо, не перабівалі ў Яго галеняў:

34. Але адзін з жаўнераў прабіў дзідаю Яму бок, і зараз-жа пацякла кроў і вада.

35. І той, хто бачыў гэта, пасьведчыў, і сьвядоцтва ягонае праўдзівае; і ён ведае, што кажа праўду, каб вы паверылі.

36. Бо гэта сталася, каб збылося Пісаньне: Косьць Ягоная няхай ня скрышыцца.

37. Гэтаксама і на іншым месцы кажа Пісаньне: Яны будуць узірацца на Таґо, Каго пранізалі.

38. Пасьля гэтага Язэп з Арыматэі, вучань Ісуса, але пакрыёмы з прычыны страху перад Юдэямі, прасіў Пілата зьняць цела Ісуса; і Пілат дазволіў. Ён пайшоў і зьняў цела Ісуса.

39. Прыйшоў гэтаксама і Нікадэм, той, што раней прыходзіў да Ісуса ноччу, і прынёс сумесь са сьмірны і алёю каля ста літраў.

40. Тады ўзялі яны цела Ісуса і абярнулі Яго ў палотны з араматамі, як звычайна хаваюць Юдэі.

41. На тым месцы, дзе Ён быў укрыжаваны, быў сад, і ў садзе новая магіла, у якой яшчэ ніхто ня быў пахаваны.

42. Тутака, з прычыны Юдэйскага Дня Падрыхтовы, дый магіла была блізка, палажылі цела Ісуса.

## РАЗЬДЗЕЛ 20.

Рана на золаку першага дня тыдня Марыя Магдалена прыходзіць да гробу, калі яшчэ было цёмна, і бачыць, што камень ад гробу адвалены.

2. Яна бяжыць і прыходзіць да Сымона Пётры і другога вучня, каторага любіў Ісус, і кажа ім: узялі Госпада з магілы і ня ведаем, дзе палажылі Яго.

3. Зараз-жа выйшаў Пётра і другі вучань і пайшлі ў напрамку магілы.

4. І абодва беглі разам, але другі вучань бег хутчэй, чымся Пётра, і прыйшоў да магілы першы.

5. І, нахіліўшыся, убачыў ле́жачыя палотны, але не ўвайшоў.

6. Зараз за ім прыходзіць Сымон Пётра і ўваходзіць у магілу і бачыць палотны лежачыя.

7. І хустку, што была не галаве Ягонай, не разам з палотнамі, але складзеную асобна.

8. Тады ўвайшоў і другі вучань, што раней прыйшоў да магілы, і ўбачыў і паверыў.

9. Бо яны яшчы ня ведалі Пісаньня, што Яму належала ўуваскрэснуць зь мертвых.

10. Тады вучні зноў вярнуліся дамоў.

11. Але Марыя стаяла ля магілы і плакала; і калі плакала, нагнулася да магілы.

12. І бачыць двух анялаў у белым адзеньні седзячых, адзін ля ўзгалоўя, а другі ля ног, дзе люжала цела Ісусава.

13. І яны кажуць ёй: жанчына, чаго ты плачаш? Яна кажа ім: забралі Госпада майго, і ня ведаю, дзе палажылі Яго.

14. Сказаўшы гэта, яна абярнулася назад і ўбачыла, што Ісус стаіць, але не пазнала, што гэта Ісус.

15. Ісус кажа ёй: жанчына, чаго ты плачаш? каго шукаеш? Яна, думаючы, што гэта садоўнік, кажа Яму: гаспадару, калі ты вынес Яго, скажы мне, дзе ты палажыў Яго, і я вазьму Яго.

16. Ісус кажа ёй: Марыя! Яна абярнуўшыся кажа Яму пагэбрэйску: Раббуні! што́ значыць: Вучыцелю!

17. Ісус кажа ёй: не дакранайся да Мяне, бо Я яшчэ ня ўзыйшоў да Айца Майго, але ідзі да братоў Маіх і скажы ім: узыходжу да Айца Майго і Айца вашага, і Бога Майго і Бога вашага.

18. Марыя Магдалена ідзе і апавяшчае вучням, што бачыла Госпада і, што Ён гэта сказаў ён.

19. Увечары таго дня, што быў першым днём тыдня, калі дзьверы дому, дзе зьбіраліся вучні Ягоныя, былі запертыя з прычыны страху перад Юдэямі, прыйшоў Ісус і стануў пасярэдзіне, і кажа: супакой вам!

20. І, сказаўшы гэта, Ён паказаў ім рукі і бок Свой. Угледзіўшы Госпада, вучні ўсьцешыліся.

21. Тады зноў сказаў ім Ісус: супакой вам! Як паслаў Мяне Ацец, гэтак і Я пасылаю вас.

22. Сказаўшы, гэта, Ён дыхнуў на іх, і кажа ім: Прыймеце Духа Сьвятога.

23. Каму даруеце грахі, таму будуць дараваныя; на кім пакінеце, на тым астануцца.

24. Але Хама, адзін зь дванаццацёх, званы Блізьнюк, ня быў тут зь імі, калі прыходзіў Ісус.

25. Іншыя вучні казалі яму: мы бачылі Госпада. Але ён сказаў ім: калі ня ўбачу на руках Ягоных знакаў ад гваздоў, і не ўкладу пальца свайго ў раны ад гваздоў, і не ўкладу рукі сваё ў бок Ягоны, не паверу.

26. Пасьля васьмі дзён ізноў былі ў доме вучні Ягоныя і Хама зь імі. Прыходзіць Ісус пры запертых дзьвярох, стануў пасярэдзіне і сказаў: супакой вам!

27. Тады кажа да Хамы: дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўлажы ў бок Мой; і ня будзь няверуючым, але веруючым.

28. Хама адказаў Яму і сказаў: Госпадзе мой і Божа мой!

29. Ісус сказаў яму: ты, Хама, паверыў, бо бачыў Мяне; дабраслаўленыя тыя, што ня бачылі і паверылі.

30. І шмат зрабіў Ісус перад вучнямі Сваімі іншых цудаў, якія ня ўпісаны ў гэтую кнігу.

31. Але гэтыя напісаны, каб вы паверылі, што Ісус ёсьць Хрыстос, Сын Божы і, веруючы, мелі жыцьцё ў імя Ягонае.

## РАЗЬДЗЕЛ 21.

Пасьля гэтага ізноў зьявіўся Ісус вучням ля мора Тыбэрыядзкага. Зьявіўся вось як:

2. Былі разам Сымон Пётра і Хама, званы Блізьнюк, і Натанаіл з Каны Ґалілейскае, і сыны Зэбядзеявы, і двух іншых з вучняў Ягоных.

3. Сымон Пётра кажа ім: іду лавіць рыбу. Кажуць яму: ідзем і мы з табою. Пайшлі і зараз-жа ўвайшлі ў лодку, і не злавілі ў тую ноч нічога.

4. Калі-ж ужо настала раніца, Ісус стаяў на беразе: але вучні не пазналі, што гэта Ісус.

5. Ісус кажа ім: дзеці, ці маеце вы якую-небудзь ежу? Яны адказалі Яму: не.

6. Ён-жа сказаў ім: закіньце сець з правага боку лодкі і зловіце. Яны закінулі, ды ўжо не маглі выцягнуць сеці з прычыны вялікае колькасьці рыбы.

7. Тады вучань, каторага любіў Ісус, кажа Пётру: гэта Госпад. Сымон-жа Пётра, пачуўшы, што гэта Госпад, ахінуўся плашчам, бо быў голы, і кінуўся ў мора;

8. А іншыя вучні прыберазіліся ў лодцы, бо недалёка былі ад зямлі, локцяў каля дзьвесьце, цягнучы сець з рыбаю.

9. Калі-ж выйшлі на зямлю ўгледзелі раскладзены агонь і ўзложаную на ім рыбу і хлеб.

10. Ісус кажа ім: Прынясеце з тае рыбы, што вы злавілі цяперака.

11. Сымон Пётра пайшоў і выцягнуў на бераг сець, поўную вялікае рыбы, лікам сто пяцьдзесят тры, і пры гэткім множстве сець не парвалася.

12. Ісус кажа ім: хадзеце і ешце. І ніхто з вучняў не адважыўся папытацца ў Яго: хто Ты? бо ўсе ведалі, што гэта Госпад.

13. Тады прыходзіць Ісус, бярэ хлеб і дае ім; гэтаксама і рыбу.

14. Гэта ўжо трэйці раз зьявіўся Ісус вучням Сваім пасьля ўваскрасеньня Свайго зь мертвых.

15. Пасьля таго, як яны кончылі есьці, Ісус кажа Сымону Пётру: Сымон, сын Ёнін! ці любіш ты Мяне болей, чымся яны? Пётра кажа Яму: так, Госпадзе! Ты ведаеш, што я люблю Цябе. Ісус кажа яму: пасі ягняты Мае.

16. Яшчэ кажа другі раз: Сымон, сын Ёнін! ці любіш ты Мяне? Пётра кажа Яму: так, Госпадзе, Ты ведаеш, што я люблю Цябе. Ісус кажа яму: пасі авечкі Мае.

17. І кажа яму трэйці раз: Сымон, сын Ёнін! ці любіш ты Мяне? Пётра засмуціўся, што трэйці раз спытаўся ў яго: ці любіш ты Мяне? і сказаў Яму: Госпадзе! Ты ўсё ведаеш; Ты ведаеш, што я люблю Цябе! Ісус кажа яму: пасі авечкі Мае!

18. Запраўды, запраўды кажу табе: калі ты быў малады, дык падпяразваўся сам і хадзіў, куды хацеў, але калі састарэешся, выцягнеш рукі свае, і іншы цябе падперажэ і павядзе, куды ня будзеш хацець.

19. Гэта сказаў Ён, даючы зразумець, якою сьмерцяю Пётра праславіць Бога. І, сказаўшы гэта, кажа яму: ідзі за Мною.

20. Пётра-ж, аглянуўшыся, бачыць ідучага за ім вучня, каторага любіў Ісус, ды што на вячэры, прыпаўшы да грудзей Ягоных, сказаў: Госпадзе, хто прадасьць Цябе?

21. Убачыўшы яго, Пётра кажа Ісусу: а ён што?

22. Ісус кажа яму: калі Я хачу, каб ён ператрываў, пакуль Я прыйду, дык што табе да гэтага? Ты ідзі за Мною.

23. І разышлося гэтае слова між братоў, што вучань гэты не памрэ. Але Ісус не сказаў, што не памрэ, але: калі Я хачу, каб ён ператрываў, пакуль Я прыйду, дык што табе да гэтага?

24. Гэты вучань і сьведчыць аб гэтым і напісаў гэта: і мы ведаем, што праўдзівае сьвядоцтва ягонае.

25. І ёсьць шмат іншага, што́ ўчыніў Ісус, але, каб напісаць пра ўсё гэта асобна, дык думаю, што ўвесь сьвет не зьмясьціў-бы напісаных кнігаў.

